# Па-ўдарнаму правесьці кантрактацыю пушніны і мехсыравіны

У сучасны момант усюды праводзіцца ажыўленая работа па заключэньні дагавароў між дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі загатаўцелямі пушніны і мехсыравіны, з аднаго боку, і калгасамі і арцелямі, а таксама аднаасобнымі паляўнічымі, — з другога. Цікава, што пры заключэньні дагавароў кантрактацыі забясьпечваецца плянамерная работа як паляўнічаму, так і загатаўцелю. Паляўнічы ўпэўнен, што ўся яго здабыча будзе ў яго прынята па правільнай цане, і, апрача таго, заключаючая з ім дагавор загатаўцельная арганізацыя акажа яму ўсякую дапамогу ў яго прамысловай рабоце; потым ён атрымае ўперад — у лік будучай здабычы ўсё, што яму неабходна як для жыцьця на сэзон паляваньня, так і для работы (паляўнічыя бояпрылады, спажывецкія прадукты, прадметы спажываньня, грошы, фураж і г. д.); апрача таго, паляўнічы звальняецца на часы паляваньня ад мабілізацыі на трудгужпавіннасьці і інш.

Дзяржаўнаму-ж і каапэрацыйнаму загатаўцелю, які заключае дагавор, забясьпечваецца плянамерная здача пушнога тавара і мехсыр'я, неабходнага яму для механапрацоўваючай прамысловасьці ў мэтах снабжэньня выпрацаванымі мехавымі таварамі працоўнага насельніцтва, а таксама для продажы заграніцай у замен закупаемых там розных прыладаў для нашага сацыялістычнага земляробства і машын і станкоў для нашых вялізарных фабрык і заводаў.

Такім чынам, здавалася, што правядзеньне кантрактацыі, як справы вельмі карыснай для абодвых дагаварваючыхся бакоў—павінна працякаць усюды ўпаўне пасьпяхова, і павінна ахапліваць усю масу калгасаў і калгасьнікаў у нашай краіне, усю вялізарную сетку паляўнічых прамыславікоў, паўпрамыславікоў і г. д.

Аднак, на мясцох выяўляюцца такія зьявішчы, якія прымушаюць біць трывогу, адзначаецца вельмі нездавальняючае выкананьне плянаў кантрактацыі. Справа ў тым, што яшчэ ня ўсе праўленьні калгасаў дастаткова глыбока ўявілі сабе ўсю важнасьць гэтае справы. Ня ўсе калгасы ўсвоілі сабе, што загатоўка пушніны і мехсыравіны мае такое вялізарнае значэньне для ўсяе нашае народнае гаспадаркі і што задача гэта зьяўляецца першараднай, што промысел гэты можа даць дзесяткі мільёнаў руб. заработку калгасьнікам, іх сем'ям і паляўнічым прамыслоўцам, што вылаўліваньне розных пушных палявых зьвяркоў (хамяка і інш.) на многа павялічыць даходнасьць калгасу, пазбавіўшы яго поле, гароды і сады ад шкоднікаў, якія прыносяць вялізарную страту земляробству, што здача пушніны дзяржаве прынясе нашай прамысловасьці і земляробству вялізарную карысьць, бо за выручаныя грошы ад продажу гэтага тавара будуць закуплены заграніцай і загатоўлены ў саюзе новыя трактары, камбайны, паравозы, вагоны, станкі і г. д.

Не ўявіўшы гэтых простых і грамадзкіх праблем, шмат якія адсталыя калгасы яшчэ адносяцца да справы кантрактацыі апусьціўшы рукавы, а іншыя нават чыняць перашкоды ў гэтай справе.

Вось чаму неабходна, каб уся калгасная грамадзкасьць, партактыў і камсамол праявілі максымум інтарэсу да правядзеньня кантрактацыі пушнамехсыравіны, узяўшы на сябе ініцыятыву зараз-жа закончыць кампанію па заключэньню кантрактацыйных дагавароў з дзяржаўнымі і каапэрацыйнымі загатаўцелямі.

Без энэргічнага ўмяшацельства і актыўнасьці саміх калгасьнікаў і мясцовай грамадзкасьці, кантрактацыя можа спазьніцца і ад гэтага атрымаецца вялізарны ўбытак для нашае дзяржавы, а таксама для насельніцтва.

Энэргічна ўключыцеся ў агульную кампанію па кантрактацыі пушніны і мехсыравіны.

**Саюзпушніна.**

# ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ

ОРГАН КААПЭРАЦЫЙНА-ПРАМЫСЛОВАГА САЮЗУ ПАЛЯЎНІЧЫХ БЕЛКАХОТСАЮЗ.


ЗЬМЕСТ




№ 11

ЛІСТАПАД


# ДАБІЦЦА БАЛЬШАВІЦКІХ ТЭМПАЎ У ПУШНА-МЕХАНАРЫХТОЎКАХ

У мінулым нумары мы ўжо гаварылі аб пушна-механарыхтоўках. Мы ўжо гаварылі і аб тым палітычным значэньні, якое набываюць гэтыя нарыхтоўкі. Таксама былі паказаны і тыя дэфэкты, якія мяшаюць правядзеньню гэтай работы і якія неабходна зжыць. Тым ня менш некаторыя зьвеньні паляўнічай каапэрацыі не зразумелі новых задач, якія стаяць зараз перад паляўнічай каапэрацыяй і ўсім сацыялістычным будаўніцтвам і не пераключыліся на новыя мэтады работы.

Зараз ужо нельга думаць пасьпяхова правесьці якую-б там ні было кампанію без належнай падрыхтоўкі да гэтай кампаніі абагуленага сэктару. Зараз галоўнай фігурай на вёсцы зьяўляецца калгасьнік, а таму пры правядзеньні якой - небудзь кампаніі трэба разгарнуць аднаведчую работу ў калгасах. Толькі павярнуўшыся тварам да калгасаў, нарыхтоўшчык будзе мець магчымасьць плянава выканаць узяты на сябе абавязак. Паварот тварам да калгасаў мяркуе неабходнасьць арганізацыі загатоўчай кампаніі, пераключэньне работы нарыхтоўшчыкаў на плянавыя рэйкі, на больш высокія тэмпы, бязьлітасную барацьбу з апартунізмам розных колераў і поўнае адмаўленьне ад разьліку на самацёк.

Уцягненьне ўсёй калгаснай сыстэмы ў пушнамехсыравінныя нарыхтоўкі магчыма толькі пры пераключэньні ўсяго загатоўчага апарату на новыя мэтады працы, адпаведна з новымі ўмовамі сельска-гаспадарчага рынку, магчыма толькі тады, калі працаўнікі паляўнічай каапэрацыі зразумеюць неабходнасьць пакончыць з самацёкам, калі яны зразумеюць, што нават узаемаадносіны з паляўнічым аднаасобнікам— бедняком і серадняком, якія яшчэ не ўвайшлі ў калгас, павінны будавацца на новых пачатках, на пачатках, забясьпечваючых арганізаванае вядзеньне паляўнічага промыслу.

Першы квартал загатовак 1931 году па ўсіх загатоўчых арганізацыях Беларусі і першыя тры кварталы па адной паляўнічай сыстэме паказваюць, што недаацэнка работнікамі па нарыхтоўках новых умоў працы, непераключэньне на новыя мэтады працы, прывялі да недавыкананьня плянаў пушных нарыхтовак.

Вопыт мінулых кварталаў работнікам паляўнічай каапэрацыі трэба ўлічыць і ў далейшым усю сваю работу будаваць на базе шчыльнай увязкі з калгасамі і калгасьнікамі, на базе сталага сыстэматычнага арганізуючага ўплыву на паляўнічы промысел. Толькі пры гэтай абавязковай умове мы зможам падцягнуць пушную гаспадарку да тэмпаў сацыялістычнай рэканструкцыі ўсяе нашае гаспадаркі і гарантаваць далейшы сыстэматычны прырост пушмехавой прадукцыі.

Вопыт дапасаваньня кантрактацыі і ў галіне сельскай гаспадаркі, і ў галіне пушных нарыхтовак даў магчымасьць плянава праводзіць нарыхтоўкі. Гэтым мэтадам работы, кантрактацыяй можна карыстацца ня толькі па загатоўках пушніны, але і па падняцьцю прадукцыі паляўнічай гаспадаркі. Але ў паляўнічай сыстэме каапэрацыі мэтад кантрактацыі яшчэ не пастаўлены на належную вышыню, яшчэ некаторымі працаўнікамі неацэнен. Зараз, пры перабудове ўсёй нашай работы, пры пераходзе на новыя мэтады працы кантрактацыі павінна быць адведзена галоўная ўвага.

Паляўнічая каапэрацыя праз свае т-вы на мясцох павінна заключыць дагаворы з калгасамі, з асобнымі калгасьнікамі і аднаасобнікамі-беднякамі і серадняками. Кантрактацыя павінна ахапіць усе паляўнічыя зьвеньні, усе калгасы, а таксама і асобных паляўнічых, гэтым самым даючы канкрэтнае заданьне кожнаму паляўнічаму і забясьпечваючы авансамі.

Аднак, трэба ведаць, што выкананьне загатоўчых плянаў будзе залежаць ад актыўнасьці ў гэтай рабоце т-ваў паляўнічых.

Трэба з выключнай сілай завастрыць увагу на разгортваньне шырокай культмасавай работы па гэтаму пытаньню. Прапрацоўка дагавароў павінна працягвацца шчыльным разборам, высьвятленьнем тых пераваг, якія даюць дагавары кантрактантам. Кантрактанты павінны быць задаволены прыладамі паляваньня, прамтаварамі і інш.

Асаблівую ўвагу трэба ўдзяліць паляўнічым ячэйкам. Кожная ячэйка павінна знаходзіцца пад неаслабным нагляданьнем з боку рэгулюючых органаў (райтаварыстваў) і, калі будзе заўважана нядзольнасьць яе да выкананьня заданьня па пушмехнарыхтоўках, кіраўніцтва яе павінна быць зараз-жа зьнята і заменена новым, такім, якое здолее выканаць узятыя на сябе абавязацельствы.

Для пасьпяховага правядзеньня кампаніі па кантрактацыі і выкананьню пляну пушных нарыхтовак неабходна раённым т-вам і ячэйкам увязацца з партыйнымі, камсамольскімі і савецкімі органамі на мясцох. Без дапамогі сельсаветаў, РВК, партыйных і камсамольскіх арганізацый на мясцох пасьпяховае правядзеньне гэтай вельмі важнай задачы нямысьліма.

Пляны пушмехнарыхтовак хаця і напорыстыя, але рэальныя і паляўнічая каапэрацыя павінны, выкананьнем і перавыкананьнем іх уключыцца ў агульна-дзяржаўнае сацыялістычнае будаўніцтва. Ц—ш.

**БІЦЦА ЗА ЯКАСЬЦЬ**

# Пушніна і мехсыравіна—асноўныя экспартныя тавары

Кожны паляўнічы павінен памятаць, што пушніна і мехсыравіна — гэта галоўныя прадметы нашага экспорту. Па гэтаму для пашырэньня пушнога пагалоўя паляўнічы павінен выходзіць на паляваньне выключна ў тэрміны, якія вызначаны для кожнага віда зьвера.

Паляўнічы, які выходзіць на паляваньне ў забаронены час, наносіць дзяржаве значныя шкоды, а гэтым самым шкодзіць і сабе.

Усім паляўнічым павінна быць вядома, што забіты ў вясеньні час, у час памнажэньня зьвярок памяншае агульнае пагалоўе. Асабліва шкоднай і нямэтазгоднай зьяўляецца здабыча дзецянят зьвера, за выключэньнем драпежнікаў (ваўкоў), паколькі іх каштоўнасьць надта нізкая, і як паказана вышэй, зьнішчаючы пагалоўе, паляўнічы не выручае каштоўнасьці зарада.

Шкуры забітых зьвяроў у вясеньні і летні час абясцэньваюцца таму, што шэрсьць і пух, якія зьяўляюцца выключна вартасьцю шкуры, у гэты час зьяўляюцца рэдкімі, няроўнымі (у летні час застаецца выключна адзін рэдкі жорсткі волас бяз пуху) і гэткая шкура ня можа быць скарыстана нават для выпрацоўкі прамысловасьцю, не гаворачы аб скарыстаньні яе для экспорту.

У мэтах барацьбы з гэткімі зьявішчамі Наркомам замежнага гандлю і ўрадавымі органамі выдана пастанова, якая забараняе ўсім прыёмшчыкам пушмехавой сыравіны прымаць шкуркі забітых зьвяроў у вясеньні і летні час, а таксама шкуры маладых зьвяроў, за выключэньнем зьвяроў, якія прызнаны шкоднікамі для сельскай гаспадаркі (воўк і тхор). **Асобы, якія будуць прад'яўляць такія шкуры, будуць прыцягвацца да крымінальнай адказнасьці, а прад'яўлены тавар будзе канфіскавацца.**

Паляўнічыя павінны таксама ведаць, што якасьць пушніны і мехсыравіны мае вялікае значэньне для дзяржавы. Праца паляўнічага ня можа цалкам апраўдацца, калі ён ня будзе добра зьнімаць, распраўляць і высушваць шкуру.

Кожны сьвядомы паляўнічы павінен зьвярнуць асаблівую ўвагу на якасьць шкур, г. зн. здымаць шкуру зьвера асьцярожна, бяз дзірак, прарэзаў, ачысьціць ад лоя (сала), расправіць на правілцы і сваячасова высушваць. Усё гэта не патрабуе многа працы і часу, а толькі ўважлівых адносін да сваёй справы.

Падрабязныя паказацелі аб папярэдняй апрацоўцы шкур усіх відаў маюцца ў стандарце, зацьверджаным усесаюзным камітэтам па стандартызацыі пры Дзяржпляне СССР ад 20—28-VII—31 г., а таксама ў брашуры Федасеева і Квіткоўскага, якую можна купіць у Белкахотсаюзе.

Кніжкі гэтыя ёсьць у любым раённым саюзе паляўнічых, або ў інш. загатавіцелях пушніны і мехсыравіны.

Толькі прытрымліваючыся паказаных правіл, паляўнічы зможа атрымаць поўную каштоўную шкурку зьвера, за якую атрымае прэміраваньне і дапаможа дзяржаве павялічыць экспорт, без чаго немагчыма перабудаваць на сацыялістычных умовах усю нашу гаспадарку, у тым ліку і паляўнічую, і шырэй разгарнуць паляўнічы промысел.

Упаўнаважаны замежнага гандлю па БССР, у мэтах палепшаньня якасьці пушніны і мехсыравіны ў гэтым годзе, асыгнаваў прэміравальны фонд, які будзе разьмяркоўвацца праз РВК і загатавіцеляў для прэміраваньня лепшых паляўнічых за колькасную здабычу і за добраякасную здымку і выпрацоўку шкурак.

**С. Элінсон**

# ЯШЧЭ ШЫРЭЙ РАЗГАРНУЦЬ САЦСПАБОРНІЦТВА І ЎДАРНІЦТВА, РАШУЧА ЗМАГАЦЦА ЗА ВЫКАНАНЬНЕ ФІНПЛЯНУ

Двадцатага лістапада гэтага году пры Белкахотсаюзе адбыўся конкурс—прэміраваньне лепшых ударнікаў, якія змагаліся за бальшавіцкія тэмпы будаўніцтва паляўнічай каапэрацыі і гаспадаркі. Да конкурсу было прадстаўлена 18 раённых паляўнічых таварыстваў, 14 ячэек і 18 аднаасобных паляўнічых.

Пастановай конкурснай камісіі прэміявана 9 раённых таварыстваў, 8 ячэек і 10 аднаасобных паляўнічых па лепшаму выканананьню і перавыкананьню паказчыкаў па нарыхтоўцы пушніны, мехсыравіны, бітай дзічы, адстрэлу драпежнікаў, мабілізацыі сродкаў, арганізацыі культ-масавай працы і ўдзелу ў грамадзкіх кампаніях, праводзімых на вёсцы. Лепшаму змагару — **Рэчыцкаму райтаварыству** паляўнічых, якім дырэктывы Белкахотсаюзу выкананы па ўсіх паказчыках работы, конкурснай камісіяй прысуджана першая прэмія, **Магілеўскаму** райт-ву паляўнічых за добрае змаганьне па зьнішчэньню драпежнікаў прысуджана таксама першая прэмія, але камісія зьвярнула ўвагу на адсутнасьць у Магілеўскім т-ве іншых паказчыкаў работы.

Другія прэміі прысуджаны: **Левьнянскаму** т-ву, якім пляны па пушнарыхтоўках выкананы і перавыкананы, **Слуцкаму** райтаварыству, якое шчыра змагалася за выкананьне ўсіх заданьняў, але вучот вынікаў яго работы (зьвесткі) поўнасцю камісіі ня былі прадстаўлены. 3-ю прэмію атрымалі **Віцебскае і Гарадокскае** т-вы за добрую пастаноўку і добры дагляд за трусамі ў трусагадоўчых гаспадарках, за кантрактацыю трусоў і **Чашніцкае, Койданаўскае і Капыльскае** т-вы—за выкананьне і перавыкананьне плянаў пушнарыхтовак.

З нізавых раённых зьвеньняў і аднаасобных паляўнічых 1-я прэміі камісіяй прысуджаны—**Дуброўскай** ударнай ячэйцы, якая здолела вакол сваёй працы згрупаваць паляўнічы актыў і за час свайго існаваньня з 1929 г. па ўсіх галінах працы ішла ўперадзе і ня мела ніводнага прарыву. 1-я прэмія прысуджана таксама лепшаму ўдарніку-змагару з драпежнікамі **Чудноўскаму** Івану (бедняку) з Горвальскай ячэйкі паляўнічых, Рэчыцкага раёну, якім адстрэлена 678 балаў, у тым ліку 6 шт. ваўкоў. За ім ідуць **Навадворская** ячэйка, Слуцкага раёну, **Бабіцкая, Чавуская, Раўкоўская, Глухоўская, Старобінская, Палікарпаўская.**

З аднаасобнікаў першая прэміі прысуджаны Осіпаву, Плавінскаму, Баравіку, Радчуку А., Цяцерыну Ф., Грыгамонісу І., Вольскай, Лойко і Паліўкіну. Ударнікаў будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі і каапэрацыі павінна ведаць паляўнічая грамадзкасьць. Трэба шырэй паказаць іх вопыт і шырэй разгарнуць ударніцтва.

Аналізуючы вынікі першага конкурсу праведзенага сацспаборніцтва ў паляўнічай каапэрацыі Беларусі, прыходзіцца застанавіцца на яго недахопах і слабым удзеле ў ім паляўнічай грамадзкасьці. Папершае, вакол кампаніі па правядзеньні гэтага ўсебеларускага конкурсу сярод паляўнічых ня была разгорнута дастатковая растлумачальная работа. Некаторыя раённыя т-вы аднесьліся да яго фармальна з адказам:—„У нас матар'ялаў да конкурсу няма" і г. д.

Па-другое, умовы конкурсу ня былі дастаткова папулярызаваны сярод шырокіх мас паляўнічых праз друк, што вельмі важна, чым і тлумачыцца недастатковы ўдзел у конкурсе паляўнічых-актывістаў. Адзначаным недахопам у падрыхтоўчай рабоце да 2-га Усебеларускага конкурсу не павінны быць месца. Урок нашай аплошнасьці павінен быць выпраўлен. Белкахотсаюзам, сумесна з Белсаюзпушнінай, на 1932 год намечана правесьці 2-і агляд лепшых паляўнічых-ударнікаў. І таму не дзесяткі, а сотні і тысячы ўдарнікаў паляўнічых павінны быць прадстаўлены да 2-га Усебеларускага конкурсу. Шырэй дарогу сацыялістычным мэтадам працы!

**Бабчонак.**

# Да пытаньня падрыхтоўкі кадраў для паляўнічай гаспадаркі*)

Ажыцьцяўленьне на практыцы прыпісных таварных паляўнічых гаспадарак, якія высоўваюцца ў замен абязьлічнай, ня вытворчай, а таму і мала таварнай гаспадаркі, упіраецца ў адсутнасьць падрыхтаваных людзей, якія змаглі-б узяцца за непасрэдную рэарганізацыю гэтай апошняй.

У мінулых сваіх артыкулах**) я вызначыў асноўныя прынцыпы, па якіх павінна разьвівацца калектыўная, прыпісная паляўнічая гаспадарка ў землярobчых раёнах СССР. Там жа былі паказаны і пасьлядоўныя мерапрыемствы па арганізацыі прыпісных паляўнічых калгасаў, пачынаючы з: 1) арганізацыі калектыву, 2) арганізацыі тэрыторыі, 3) складаньня паляўніча-вытворчага пляну на 1 і 5 год і г. д.

Выкананьне любога з гэтых пунктаў патрабуе ад упарадкавацеляў і кіраўнікоў гаспадаркі ня толькі ўсебаковага веданьня паляўнічай гаспадаркі, але і падрыхтоўкі з пункту гледжаньня грамадзка-палітычнага. Ужо выходзячы з гэтага, відавочна, што без спэцыяльнай падрыхтоўкі асобных кадраў, зусім новых у сэнсе сваёй спэцыялізацыі, нам не абыйсьціся. Звычайна, гаворачы аб кадрах для паляўнічай гаспадаркі і каапэрацыі, дагэтуль мы мелі на ўвазе інтарэсы прамысловай паляўнічай гаспадаркі крайняй поўначы (гл. напрыклад „Охотник", за жнівень 1931 г.), дзе само паляўнічае будаўніцтва практычна куды прасьцей і зводзіцца пераважна да арганізацый арцеляй (калектываў) арганізацыі тэрыторыі ў сэнсе яе адмежаваньня і разьмеркаваньня між асобнымі прамысловымі групамі. У землярobчай паласе праблема паляўнічай гаспадаркі складаней. Тут паляваньне ўжо даўно ў значнай ступені страціла гаспадарчае значэньне, дзякуючы рэзкаму ска-



Егер паляўнічага запаведніку т. Куцэвіч.

*) Упарадку пастаноўкі пытаньня.
**) Гл. № 9 і 10 гэтай-жа часопісі.

рачэньню натуральных запасаў дзічы і для атрымацьня *таварнае* паляўнічае гаспадаркі (а мы толькі менавіта гэты тып гаспадаркі маем на ўвазе) неабходна заняцца *разьвядзеньнем* дзічы і зьвера, а ня толькі яго здабываньнем, як гэта мела дагэтуль і мае яшчэ месца і зараз. Дзічаразьвядзеньне, таксама як і зьвераводзтва (пушное)—упаўне асобныя, даволі спэцыяльныя галіны сельскай гаспадаркі, пры правільнай пастаноўцы справы—дастаткова рэнтабельным і, як паказвае вопыт некаторых другіх краін (Германія, ПАЗШ, Канада), якія могуць даць значныя колькасьці таварнай прадукцыі (мяса, шкуры, пушніны), дастаўляемай звычайнай жывёлагадоўляй. Такім чынам правільнае вырашэньне паляўніча-гаспадарчай праблемы—ёсьць у той-жа час садзейнічаньне вырашэньню адной з важнейшых праблем сацыялістычнага будаўніцтва—жывёлагадоўлі. І зусім таксама як для пасьпяховага разьвіцьця апошняга нам неабходны (і мы рыхтуем іх) кадры жывёлаводаў (аграномы-зоотэхнікі, генэтыкі, птушкаводы, інкубатарысты і г. д.), так і для ўтварэньня і разьвіцьця паляўнічай інтэнсыўнай гаспадаркі неабходны паляўнічазнаўцы і паляўнічыя тэхнікі (пушнікі-зьвераводы, дзічаводы, паляўніча-ўпарадкаваўцелі, бухгальтары і рахункаводы і г. д. і добрыя арганізатары—актывісты, якія-б змаглі ня толькі з'арганізаваць распыленую паляўнічую масу, (калгасную і аднаасобную) у арцелі і калектывы, аб'яднаць іх у гаспадарчыя адзінкі, але, стаўшы на чале апошніх, праводзіць у іх работу, згодна пакаваньням раённых і цэнтральных кіруючых паляўнічых і загатоўчых арганізацый.

Вось аб падрыхтоўцы гэтай катэгорыі спэцыялістаў я і зьбіраюся далей гаварыць, пры чым закрану: 1) *профіль* неабходных спэцыялістых, 2) колькасьці апошніх, 3) тэрмінаў і 4) месца падрыхтоўкі іх.

Па пункту першаму, г. зн. аб профіле спэцыялістаў для паляўнічае гаспадаркі, неабходна заўважыць, што тут ня можа быць рэчы аб адзіным унівэрсальным тыпе спэцыяліста. Выходзячы з агульнага пляну структур, вызначаемых у нас (у БССР) тыпаў і разрадаў гаспадарак, нам неабходны наступныя катэгорыі падрыхтаваных людзей: а) актывістаў-грамадчыкаў, знаёмых з асновамі спэцыяльных тыпаў паляўнічай гаспадаркі і спэцыяльнымі вымаганьнямі апошніх, добра падрыхтаваных у галіне грамадзкіх і палітычных дысцыплін. Гэта катэгорыя павінна будзе адыгрываць ролю арганізатараў і кіраўнікоў раённых і цэнтральных паляўніча-гаспадарчых аб'яднаньняў.



Месца жыцьця баброў у паляўн. запаведніку.



Сьляды бабра на сьнягу.

б) Паляўніча-знаўцы—біолёгі, добра знаёмыя з біолёгіяй паляўнічых і прамысловых відаў; з рознымі тыпамі паляўнічых гаспадарак, пастаноўкай і вядзеньнем у іх справы. Гэтая катэгорыя спэцыялістаў павінна будзе кіраваць паляўнічаўпарадкавальнымі работамі; ведаць арганізацыяй тэрыторыі; выпрацоўваць вытворчыя пляны на падставе даных біовучоту, складаць рацыянальныя пляны адстрэлу; пляны работ па падняцьцю вытворчасьці ўгодзьдзяў; выконваць інструкцыйна-кантрольныя функцыі; весьці стала дасьледчую работу ў гаспадарках і на біолёгічных станцыях.

в) Паляўнічыя тэхнікі, ведаючыя спэцыяльныя віды гаспадарак (пушное зьвераводзтва, дзічаразьвядзеньне—капытнае, па пяру): знаёмыя з біовучотам; з работамі па палепшаньню ўгодзьдзяў; з вядзеньнем кніг і ведамасьцяй аб гадавым складзе стада, адстрэле і інш.; з пастаноўкай аховы барацьбы з драпежнікамі і інш. Гэта асноўная маса працаўнікоў у кожнай паляўнічай гаспадарцы.

г) Паляўнічыя статыстыкі (бухгальтары, рахункаводы, канторшчыкі), знаёмыя апрача агульных рахункаводных дысцыплін з асаблівасьцямі таварнай паляўнічай прадукцыі. Гэтыя катэгорыі работнікаў павінны абслугоўваць раённыя і цэнтральныя праўленьні паляўнічае кааперацыі і яе загатоўчыя і прыёмачна-здатачныя пункты.

д) Пушнікі—сарціроўшчыкі і бракёры,—добра знаёмыя з стандартамі меха, спосабам сартыроўкі і хаваньня шкур. Гэты тып спэцыялістаў панадабіцца для цэнтральных складаў і баз, месц прыёмкі, сартыроўкі і хаваньня пушніны.



Хатка бабра каля возера Асінка (Белдзяржзапаведнік).

Апрача таго, у кожнай паляўнічай гаспадарцы, у дапамогу *паляўніча-тэхніку* павінны вылучацца арцельшчыкі па прыёму ад членаў калектыву і здачы па дагаворах нарыхтаванай пушніны і дзічы, па захоўваньню грамадзкага паляўнічага інвэнтару (сельска-гаспадарчых прылад, абкладных шнуроў, стрэльбаў, боепрыладаў, капканаў, кармоў і інш.); *абкладчыкі*—ведаючыя спосабы абкладу ваўка, лісіцы, капытных і інш.; егеры—ахоўваючыя гаспадарку ад незаконнага паляваньня ў гаспадарцы, ад лясных пажараў, незаконнай пасьбы жывёлы і інш.

Усе гэтыя важныя катэгорыі работнікаў паляўнічае гаспадаркі, якія знаходзяцца пад непасрэдным загадваньні паляўніча-тэхніка ім-жа на месцы і рыхтуюцца з ліку высунутых калектывам таварышоў, Пераходзім да пытаньня аб *колькасьці* работнікаў кожнай катэгорыі.

У адносіне групы „а" (арганізатараў-грамадчыкаў) пытаньне вырашаецца бясспрэчна,—у кожным раёне павінен быць такі работнік апрача таго ў буйных абасобленых гаспадарках (калгасах або саўгасах) і для работы ў цэнтральным праўленьні паляўнічай каапэрацыі. Такім чынам усяго гэтага тыпу падрыхтаваных паляўнічых грамадчыкаў патрабуецца да *80—100* чалавек.

*Паляўніча-знаўцаў-біолёгаў*, неабходных для правядзеньня паляўнічаўпарадкавальных работ, для дасьледчай, кіруючай і кантралюючай работы ў будучым (пасьля ўтварэньня паляўнічых гаспадарак) патрабуецца на менш 5—10 чалавек.

*Паляўнічых-тэхнікаў*, г. зн. асноўных спэцыялістаў, неабходных для вядзеньня справы ў кожнай паляўнічай гаспадарцы патрабуецца да 200 чалавек (калі дапусьціць толькі па 2-3 абасобленых гаспадаркі на раён, а калі гаспадарка будзе вузка спэцыялізавана і пры ме больш дыфэрэнцыраваны характар, дык тэхнікаў патрабуецца адпаведна большы лік).

*Паляўніча-статыстыкаў* (бухгальтарска-рахункаводных работнікаў) таксама патрабуецца да 100 чалавек (у кожным раёне і для цэнтра). І, урэшце, *пушнікоў*—чалавек да 10 (галоўным чынам для цэнтральных баз і сартыровачных аддзяленьняў).

Такім чынам агульны лік неабходных спэцыялістаў рознай кваліфікацыі для арганізацыі і вядзеньня паляўнічай гаспадаркі БССР, вызначаецца лічбаю ў 400—420 чалавек, прычым у першую *чаргу* стаяць першыя тры катэгорыі, г. зн. каля 300 чалавек. Калі прыняць пад увагу, што агульны лік каапэраваных паляўнічых дасягае значнай лічбы, амаль 30 тысяч чалавек, дык паказаны лік спэцыялістаў, якія арганізуюць і вядуць паляўнічую гаспадарку—складзе толькі ўсяго каля 1 проц. па адносіне да ўсёй масы паляўнічых, што хутчэй павінна лічыцца вельмі недастатковым, чым перавышаючым.

Пераходзім да пытаньня аб спосабах падрыхтоўкі патрэбных нам спэцыялістаў. У гэтым выпадку трэба ісьці, па-першае, па шляху арганізацыі каротка-тэрміновых курсаў для катэгорыі—грамадчыкаў-актывістаў, паляўнічых тэхнікаў, статыстыкаў і пушнікоў, і па-другое, па шляху адчыненьня спэцыяльных асьпірантур пры БАН і БДУ для падрыхтоўкі біолёгаў-паляўнічазнаўцаў. Быць можа частка дысцыплін,—а для першай катэгорыі і ўсе,—маглі б быць пройдзены завочна. Асноўную-ж групу спэцыялістаў—паляўнічых тэхнікаў прышлося-б рыхтаваць на спэцыяльна арганізаваных курсах з тэрмінам навучаньня каля 1 году (уключаючы і практычную стажыроўку). Для падрыхтоўкі тэхнікаў-зьвераводаў, дзе патрабуецца азнаямленьне з утрыманьнем і даглядам рознага віда зьвера ў розныя пэрыяды яго жыцьця гэты тэрмін павінен быць некалькі павялічан.

Што датычыць месца падрыхтоўкі *паляўнічых тэхнікаў* (апрача зьвераводаў), дык частка дысцыплін магла-б быць прапрацавана ў Менску пры адпаведных ВУЗ'ах, напрыклад, пры зоолёгічным аддзяленьні БДУ, пры „Саўбудзе" (па грамадзка-палітычнаму цыклю праграмы), на пушной базе Пушсындыкату. Практычная-ж стажыроўка, ахапляючая частку зімняга і вясеньня-летняга пэрыяду павінна быць перанесена ў вопытныя лясьніцтвы або ў паляўнічы запаведнік, дзе, да рэчы, ёсьць ня толькі ўсе віды мясцовай паляўніча-прамысловай фаўны, але арганізуецца і біолёгічная станцыя, можа быць памяшканьне для інтэрната, ёсьць паляўнічазнаўцы і багацейшыя ўмовы ў сэнсе магчымасьці азнаямленьня з рознымі тыпамі паляўнічых угодзьдзяў.

У якасьці *„дыплёмнай работы"* групы (брыгады) канчаючых паляўнічых тэхнікаў, пад кіраўніцтвам паляўнічазнаўцаў, павінны будуць падаць праэкты арганізацыі паляўнічых гаспадарак у выбраных раёнах (у розных зонах рэспублікі), і па дагаворах з раённымі аб'яднаньнямі ў якасьці першай работы



Былы лісіны гадавальнік у запаведніку.

змаглі-б правесьці рад вопытных паляўнічаўпарадкаваўчых работ (арганізацыю калектываў, арганізацыю тэрыторыі, выпрацоўкі і складаньня паляўнічавытворчага пляну на 5·10 год). Маючы на ўвазе будучае ў канцы сваёй падрыхтоўкі выкананьне практычна важнай і адказнай работы па арганізацыі паляўнічай гаспадаркі, кадры павінны атрымаць усе неабходныя для гэтага ім зьвесткі і навыкі і з гэтым павінна будзе лічыцца будучая праграма курсаў.

Вядома, што не адразу можа быць падрыхтавана ўся патрэбная нам маса ў 200—300 чалавек спэцыялістаў—гэта справа некалькіх бліжэйшых год.

Праўда, у нас няма ў гэтай справе вопыту, але яго ніколі і ня будзе, калі яго не пачынаць, таму якія-б цяжкасьці не паўсталі ў нас на гэтым шляху, іх трэба перамагчы і справу пачынаць.

Такім чынам, мы ставім пытаньне суцэльнага паляўнічага ўпарадкаваньня ў залежнасьці ад падрыхтоўкі кадраў, з гэтага і трэба пачынаць, калі толькі гаварыць аб больш або менш поўнай рэарганізацыі паляўнічай гаспадаркі, а без апошняга—гаспадарка наша ніколі ня стане даходнай (таварнай), а наадварот—будзе падаць. Ці знача гэта, што наогул пытаньне аб арганізацыі ў БССР паляўнічых прыпісных калектыўных гаспадарак адкладаецца на доўгі час, на год, два або больш, г. зн. да падрыхтоўкі спэцыялістаў. Я думаю, што ні ў якім разе не. Справа ў тым, што сярод масы паляўнічых, бязумоўна знойдзецца шмат настолькі вопытных і падрыхтаваных таварышоў, што з імі, пасьля самай неабходнай кароткай дадатковай падрыхтоўкі ў 1—2 месяцы (быць можа нават завочна!) ужо можна будзе ажыцьцявіць некалькі вопытных *прыпісак*, выбраўшы з ліку лепшых з гэтых таварышоў паляўнічых-тэхнікаў (інструктароў) для будучых гаспадарак.

І, урэшце, каму займацца ўсімі гэтымі пытаньнямі, якое з ведамстваў у гэтай справе бліжэй іншых зацікаўлены? Я думаю, што больш за ўсё ў гэтым зацікаўлен саюз паляўнічых, Наркамснаб, Пушсындыкат, Наркамзем, Калгасцэнтр. Як відаць, неабходна гэтае пытаньне сур'ёзна паставіць ва ўсіх адпаведных ведамствах для таго, каб забясьпечыць неабходныя ўзгодненасьць і матар'яльнае падтрыманьне.

Зразумела, што раней павінна быць прынята канчатковае рашэньне з боку кіруючых органаў (Наркамзема, Дзяржпляна, Калгасцэнтру) па пытаньню аб прынцыповых устаноўках, зьвязаных з рэарганізацыяй абасобленых калектыўных прыпісных гаспадарак, паляўнічых калгасаў і паляўніча-саўгасных арганізацый, высунутых мною ў асобным праекце, перададзеным на разгледжаньне ў Белмэліятрэст у адносіне ўпарадкаваньня паляўнічых гаспадарак у Рэчыцкім палесьсі, абсьледваным намі ў 1930 годзе [1]).

Праф. **А. У. Федзюшын.**

---

[1]) Асноўныя палажэньні з гэтага праекту апублікаваны ў ранейшых №№ 9—10 „Паляўнічы Беларусі" у маіх артыкулах.

# Прамысловае і сельска-гаспадарчае значэньне крата

*(Да пытаньня аб разьвіцьці кратовага промыслу).*

Нядаўна крот яшчэ зусім не фігураваў у нашых пушных загатоўках, і толькі паступова ўзрастаючы на захадзе Эўропы і асабліва ў Амэрыцы попыт на яго прыгожую бархатную скурку прымусіў здабываць гэтага ўсім вядомага зьвярка і ў нас. Па даных В. Я. Генэрозава некалькі год таму назад абароты толькі амэрыканскай прамысловасьці па кратовому мяху дасягалі ўжо 3-4 мільёнаў даляраў (6—7 мільёнаў залатых рублёў), прычым гутарка ідзе выключна пра прывазнога з Эўропы (асабліва з Ангельшчыны і Шатляндыі) крата, бо ў Амэрыцы сапраўднага крата (Talpa), як вядома, няма [1]).

Такім чынам гэтыя лічбы паказваюць як хутка ўзрос попыт на кратовы мех. Што датычыцца цэн на скуркі, то апошнія перажывалі значныя хістаньні (ад 20 да 60 кап.) і залежалі ад патрэб моды і стандарту меха. Больш за ўсё цэніцца шатляндзкі і галяндзкі крот, менш другіх—крот з Італіі. Пасьля вайны цэны на крата ўзрасьлі яшчэ больш, але хутка (1920—22 гг.) у многіх эўропэйскіх пушных фірм згрупаваліся вялізныя масы крата, які не пасьпяваў разыйсьціся і такім чынам адзін час у Эўропе наглядалася затаварваньне кратовых скурак, што выклікала зьніжэньне цэн, у выніку чаго цэлы рад фірм панёс вялікія страты.

Але хутка (1923—25) узросшы зноў попыт з Амэрыкі, якая была да таго галоўным спажыўцом кратовых скурак (у 1925 годзе за верасень толькі было ўвезена 233.225 штук), а таксама і значна ўзросшае мясцовае ў Францыі і Нямеччыне спажываньне гэтага віда пушніны забясьпечыла далейшы ўзрост кратовага промыслу.

У гэты час на сусьветных рынках упяршыню выступае з кротам і СССР. У 1924—25 годзе СССР вывезла ў Ангельшчыну 1.396 скурак крата на суму 506 руб. („Пушное дело" № 4—5 1925 год). З гэтага часу штогадовыя загатоўкі і экспарт крата павялічваюцца раўналежна ўзрастаючаму замежнаму попыту.

Цікава падаць рост здабычы крата ў нас, у БССР. Так, па афіцыйных даных загатоўчых арганізацый было загатоўлена кратовых скурак:

| Па гадох | у 1925-26 г. | 26-27 г. | 27-28 г. | 28-29 г. | 29-30 г. [3]) |
|---|---|---|---|---|---|
| Штук . . . . | — | 1916 | 102345 | 296000 [2]) | 212580 |
| На суму ў руб. . | — | 77 | 40369 | 93814 | 57464 |
| У %% да агульн. сумы ад загатовак | — | 0,10% | 5,08% | 25,53% | 15,59% |

---

[1]) У Амэрыцы (у Канадзе) пад назвай крата ў пушным гандлі вядомы апрача эўропэйскага віду мясцовыя другія віды казуркаедных—Scaloph aquaticus, (які ўхіляецца, ня гледзячы на сваю назву, вады) і Condylura cristata (які добра і ахвотна плавае) *А. Ф.*

[2]) Гэта лічба пададзена па даных НКЗ, а па даных Пушнабазы Белгандлю за гэты-ж год сабрана 238.392 штукі (прынята па акту).

[3]) Зьвесткі за 1929—30 г. няпоўныя, толькі да I-V і ў адносінах да крата, загатоўкі якога акурат прыпадаюць на вясну і восень. Агульная лічба здабычы некалькі была вышэй.

Такім чынам, калі ня лічыць 1926—27 г. (у якія нязначная колькасьць загатовак кратавіны тлумачыцца поўнай навізною справы і слабай папулярызацыяй гэтага промыслу) у наступныя гады гадавыя загатоўкі па крату выявіліся ў сярэднім лічбай у 200 тысяч штук на суму 64.000 руб., што складае ў сярэднім больш 15 проц. каштоўнасьці ўсёй загатавіцельнай штогоднай пушніны ў БССР.

Але аналіз лічбовых даных аб загатоўках крата па розных акругах БССР паказвае, што гэты промысел разьвіт тут вельмі нераўнамерна, і калі ў асобных акругах (былых) дабыча крата мела прыкметны характар, дык у другіх яна амаль ня мела месца зусім. Сапраўды, калі вылічыць паказчык так званага таварнага выхаду з кожных тысячы *га* агульнай плошчы розных акруг, то атрымаецца надзвычайна рознастайны малюнак у адносінах велічыні гэтага паказчыка. Так, напрыклад, у 1928—29 г. паказчык таварнага выхаду па крату для быўшых акруг аказаўся наступны: для Менскай—6,36, для Бабруйскай—3,48, Гомельскай—7,4, Мазырскай—3,43, Магілеўскай—12,15, Аршанскай—7,74, Віцебскай—26,8, Полацкай—132,72.

Як бачым, толькі ў Полацкай акрузе здабыча крата даволі разьвіта і ніжэй іншых пастаўлена яна ў акругах Мазырскай і Бабруйскай. Дасьледваньні паляўніча-прамысловай фауны і эканамічнага значэньня паляваньня ў Рэчыцкім Палесьсі, праведзеная ў 1930 годзе зоолёгічным музэем БАН, паказала, што тут паказчык таварнага выхаду крата ніжэй усяго, а менавіта для 1929—30 году ён быў ровен там—0,52, а гэта значыць, што з кожных 2000 *га* (ці 20 кв. кілёмэтраў) плошчы дабываецца толькі *1 крот!*

Чым тлумачыцца такі нізкі выхад кратавіны ў Палесьсі? Відавочна тут могуць быць толькі дзьве прычыны—альбо дрэнная арганізацыя справы загатовак і недастатковая папулярызацыя самага промыслу, альбо нязначныя, у параўнаньні з больш паўночнымі раёнамі рэспублікі, прыродныя запасы гэтага віду.

На жаль экспэдыцыяй, з прычыны недахопу часу, не магла быць праведзена належная работа па ўліку прыродных запасаў крата ў розных стацыях (вельмі складаных і рознастайных у Рэчыцкім Палесьсі), але, выходзячы з глебавых і гідролёгічных умоў у Палесьсі, тут сапраўды можна чакаць меншых запасаў гэтага зьвярка. Справа ў тым, што адной з істотных частак яго корму зьяўляюцца дажджавыя чэрві і вусьні розных казюлек, якія жывуць звычайна ў тлустых перагнойных глебах. Як вядома, Палескія глебы—пяшчаныя і нярэдка для адшуканьня дажджавога чарвяка, што добра вядома вудзільшчыкам, тут прыходзіцца рыць ня мала зямлі для гэтае мэты, альбо адшукваць яго ў глебе хлявоў, ці на вучастках добра ўгноенай зямлі. Але відавочна ня толькі горшыя кармовыя ўмовы абумоўліваюць адносна меншы запас крата ў Палесьсі, бо на гэта могуць уплываць і яшчэ дзьве наступных прычыны: па-першае — вельмі высокі ўзровень падглебавых грунтавых вод (вельмі часта ня менш 0,5 мэтра), і вялікая забалочанасьць тэрыторыі, а па-другое—вялікія плошчы, якія затапляюцца вясеньнімі водамі.

Такім чынам асаблівы гідролёгічны рэжым Палесься павінен таксама адмоўна ўплываць на колькасныя запасы крата. Між іншым, яшчэ раз агавараемся, што гэта толькі апрыорныя разважаньні на аснове агульнга знаёмства з прыроднымі ўмовамі Палесься, што ні ў якім разе яны не зьяўляюцца адзіным тлумачэньнем прычын малай загатоўкі крата ў Палесьсі. Зусім магчыма, што тут маецца цэлы рад яшчэ іншых прычын, зусім не натуральна-гістарычнага характару.

Што-ж датычыцца натуральных запасаў крата ў гэтай або другой частцы БССР, дык такіх дасьледваньняў яшчэ пакуль ніхто не ўчыняў і гэта работа толькі намячаецца ў агульным пляне далейшых фаўнастычных дасьледваньняў і біопадліку на тэрыторыі рэспублікі, у зьвязку з максымальным выкарыстоўваньнем усіх яе натуральных вытворчых сіл на справу сацыялістычнага будаўніцтва.

Тым ня менш, цяжка дапусьціць, каб „увесь“ крот згрупоўваўся-б толькі ў Полацкай акрузе, дзе, як паказана, таварны выхад у 10 і ў 40 разоў вышэй (параўнаўча з Палесьсем, напрыклад), чым у іншых раёнах. Зусім відавочна, што тут гутарка можа ісьці толькі аб розных адносінах да самой справы промыслу і загатовак крата.

Прымаючы пад увагу дастатковую рэнтабельнасьць кратовага промысла, адзінае тлумачэньне слабога яго разьвіцьця трэба шукаць у недастатковай папулярызацыі промысла, у няўменьні здабываць крата, у адсутнасьці добрых пастак. Між тым, давёўшы здабычу крата да разьмераў, якія маюць зараз месца ў Полацкай акрузе, г. зн. падвысіўшы яе для ўсёй БССР у 10 разоў, можна было-б у двое павялічыць прыбытковасьць ад усёй зараз здабываемай тут пушніны.

І так пакуль мы можам устанавіць бязумоўны і значны недапромысел у нас па гэтаму віду. Але вядучы барацьбу за павялічэньне і разьвіцьцё кратовага промысла, які павялічвае нашы экспартныя магчымасьці, неабходна памятаць і аб яго некаторай карыснасьці ў сельскай гаспадарцы, каб не аказацца ў канфлікце з гэтай апошняй.

Пытаньне аб значэньні крата ў сельскай гаспадарцы ня можа быць разьвязана *аднолькава* для розных яго тыпаў і для розных раёнаў. У гэтай адносіне цікавыя супроцьлеглыя вырашэньні пытаньня рознымі дасьледчыкамі, і для паўнаты нашага меркаваньня неабходна пазнаёміцца з некаторымі з іх. Гаворачы аб карыснай або шкоднай дзейнасьці крата, прыходзіцца мець на ўвазе яго мэханічны ўплыў на глебу—рыцьцё падземных і вываарачваньне кучак зямлі на верх, і склад яго харчоў. Як убачым ніжэй і ў першым і ў другім выпадку ёсьць элемэнты і карысьці, і шкоды з пункту погляду той жа сельскай гаспадаркі. Як вядома, крот большую частку свайго жыцьця праводзіць рыючыся ў зямлі і толькі рэдка (часьцей уначы) паказваецца на паверхнасьці. Уся арганізацыя цела крата рэзка спэцыялізавана для мэтаў рыцьця і падземнага жыцьця. Яго валькаватае, амаль цыліндрычнае цела мае вельмі ўкарочаныя канцовасьці, ладонная частка якіх пярэдняй пары вельмі пашырана (ёсьць нават асобная дадатковая костачка), узброена вельмі моцнымі кіпцюрамі, так што ўся пярэдняя канцовасьць мае від шырокай лапаты або лыжкі. Морда выцягнута ў рыла і заканчваецца напамінаючым сьвіны пятаком, таксама падтрымліваемым асобнай костачкай. Кароткі, напамінаючы бархат і ня маркі таму чорны мех і амаль рэдуцыраваныя (неразьвітыя) вочы і вушныя ракавіны—бязумоўна таксама прыстасаваны для

падземнага жыцьця і рыцьця. Здольнасьць да рыцьця ў гэтае жывёлы надзвычайная і, па назіраньнях некаторых аўтараў, крот можа за адну ноч пракласьці падземны ход даўжынёю 50 мэтраў [1]). Кожная жывёла, выбраўшы сабе добры вучастак (часьцей за ўсё дзе-небудзь на лузе, агародзе, уздоўж дарогі і г. д.), пакрывае яго цэлым лабірынтам падземных ходаў, якія сходзяцца ў логава—гняздо. У гэтых гатовых падземных ходах крот пастаянна шмыгае, і зьнішчае пры гэтым вялізарную колькасьць жывёльных харчоў, агульная сутачная вага якіх перавышае вагу яго ўласнага цела. І хаця сустракаюцца ў літаратуры і падручніках паказаньні на тое, што крот без харчоў ня можа пражыць больш 6—12 гадзін, бязумоўна гэтыя паказаньні паменшаны (я асабіста мог упэўніцца ў тым, што крот без харчоў праіснаваў адзін раз 40 гадзін)—усё-ж неімаверная яго пражорлівасьць (зьвязаная, вядома, з вялізарнай затратай энэргіі пры такой цяжкай рабоце, як рыцьцё) даказана, і пры гэтым трэба памятаць, што і зімою крот ня спыняе сваёй зьнішчальнай дзейнасьці, праводзячы яе толькі ў больш глыбокіх, не прамярзаючых пластох зямлі. Што датычыць склада яго харчоў, дык па Брасу (Brass, 1924 г.) яе складаюць галоўным чынам вусьні майскага і іншых жукоў, дажджавыя чарвякі і ўсё апошняе, што сустракаюцца ў яго падземных ходах—тунэлях, як напрыклад, вадзяныя пацукі, землярыйкі, палёўкі і палявыя мышы, яшчаркі, зьмеі, лягушкі і інш.

На гэтай падставе Брас прылічае крата ў большасьці выпадкаў „да вельмі карысных“ жывёлін, робячы агаворку, між іншым, і аб яго шкодзе ад зьнішчэньня дажджавых чарвей, якію маюць вялікі ўплыў і адыгрываюць вялікую ролю ў працэсах глебаўтварэньня [2]). У садох-жа крата той-жа аўтар лічыць „ні ў якім выпадку нецярпімым“.

Прафэсар А. Браўнэр паказвае, што пытаньне аб тым, чым харчуецца крот у паўднёвай стэпавай паласе,—яшчэ ня высьветлена, што-ж датычыць сярэдняй Эўропы і б. Пецярбурскай губ., то на падставе работ Я. Ф. Шрэйнера [3]) у якасьці галоўных харчоў крата ім-жа паказваюцца дажджавыя чарвякі, розныя вусьні жукоў, дарослыя шасьціножкі, лягушкі і інш. Па назіраньнях А. Грэта [4]) краты, уначы выходзячы на паверхню зямлі, паядаюць дохлых дробных жывёлін (мышэй, птушак і інш.), пры чым бываюць выпадкі, што яны зарываюць іх у зямлю, пасьля чаго зьядаюць.

У выніку сваіх і прыведзеных назіраньняў, А. Браўнэр прыходзіць да заключэньня, што „для сярэдняй Эўропы і Пецярбурскай губ. крот прызнаецца *шкодным* па наступных прычынах:

1) З-за зьнішчэньня дажджавых чарвякоў, карысных для сельскай гаспадаркі; 2) з-за псаваньня роўнай паверхні сенажаці, гародных і садовых град і інш. выкідаемымі ім кучкамі зямлі [5]).

Што-ж датычыць стэпу, то той-жа аўтар гаворыць аб вялікай карысьці, прынасімай кратом тым, што ён сваімі падземнымі ходамі аблягчае пранікненьне ў глебу вады.

І ў радзе назіраньняў іншых аўтараў мы таксама знаходзім тыя-ж супроцьлеглыя погляды на сапраўднае значэньне крата ў сельскай гаспадарцы, тым больш, што амаль усе яны датычаць толькі якаснага боку справы, ігнаруючы ня менш істотную катэгорыю ў гэтым пытаньні—колькасныя адносіны тых або іншых відаў, якія ўваходзяць у склад гадавых харчоў крата. У гэтай адносіне заслугоўвае вялікай увагі новая дакладная работа д-ра Захтлебена (Sachtleben) [6]) па дасьледваньню зьмесьціва 140 страўнікаў крата з сярэдняй Германіі, прычым апошняе разьмяркоўваецца наступным чынам: 1) вусьні майскіх жукоў (вельмі шкодны) аказаліся ў 104 страўніках. 2) Дажджавыя чарвякі (карысныя) аказаліся ў 65 страўніках. 3) „Проволочные“ чарвякі (вельмі шкодныя) аказаліся ў 99 страўніках. 4) Гусеніцы совак (азімай) (вельмі шкодныя) аказаліся ў 25 страўніках. 5) Мурашкі (няпрыносячыя значных—ні шкоды, ні карысьці) аказаліся ў 28 страўніках.

І апрача таго ў невялікай колькасьці ў некаторых страўніках былі знойдзены астаткі і карысных шасьціножак (драпежных жукоў і іх вусьняў).

У адным страўніку былі знойдзены *толькі вусьні майскага жука* ініводнага дажджавога чарвяка, ня гледзячы на тое, што было шмат дажджавых чарвякоў і мала вусьняў жука на тым вучастку, адкуль узят быў крот.

Для растлумачэньня разьмераў магчымай шкоды, якую прыносяць краты паяданьнем дажджавых чарвякоў, цікава прывесьці тут адзін разьлік, узяты з той-жа работы Захтлебена. Так д-рам Гензенам (Hensen) вылічана, што агульная вага дажджавых чарвякоў, жывучых на 1 *га* (пахатнай зямлі ў Германіі) роўна 400 кілёграмам, якая ў выніку размнажэньня праз год можа дасягнуць 8.000 кілёграм. Між тым было вылічана, што адзін крот на працягу году паядаў каля 32,85 кілёграм чарвякоў і казюрак. Калі дапусьціць, што на 1 *га* жыве 10 штук кратоў (што вельмі многа), дык на працягу аднаго году яны зьядуць усяго 328,5 *кг*, чарвякоў і казюрак і, значыць, далёка ня могуць зьнішчыць, або нават асабліва прыкметна зьменшыць ліку дажджавых чарвей. Вось чаму, у выніку гэтых цікавых назіраньняў д-р Затхлебен прыходзіць к зусім процілегламу вышэйпрыведзеным погляду, а менавіта, што *„няма падстаў лічыць крата шкодным для сельскай гаспадаркі“*, і ў Германіі *ахова* крата праведзена ў заканадаўчым парадку, якім дапускаецца яго зьнішчэньне толькі на ўласных землях, у садох, на плацінах і водных пабудовах.

Праф. **А. У. Фядэюшын.**

(*Працяг у наступным нумары*).

---

[1]) Калі-б адпавядаючай здольнасьцю рыцьця надзяліць чалавека, дык, у адпаведнасьці са сваёй прапарцыянальнай у адносіне да крата велічынёй цела, апошні павінен быў-бы вырываць уноч тунэль даўжынёю 50 кілёмэтраў. (Brass, 1924).

[2]) В. Гернэрозаў (Кроты, их истребление и использовывание шкурок, 1922 г.) паказвае на тое, што „ночью крот выходит па поверхность земли і поедает яйца и птенцов, опустошая этим гнезда“. Наўрад ці можна з гэтым згадзіцца, хіба толькі дапусьціўшы падобныя паводзіны крата выключна ў рэдкіх выпадках, але не як зьявішча звычайнае ў яго жыцьці.

[3]) Я. П. Шрэйнер. „Крот обыкновенный по новейшим данным и важнейшие способы борьбы с ним“. СПБ. 1916 г. выд. ДЭБ. Земляроб.

[4]) А. Грэт. „Мелкие наблюдения природы“. Натур. і географ. № 4, 1896.

[5]) А. Браўнер. „Сельско-хозяйственная зоология“ 1923 г ГИЗ Укр.

[6]) M. L. Klemm. „Die Bedeutung des Maulwurts für die Land witschaft Osteuropaisehe Landwirtszeitung (№ 7) VII—1931 г, Berlin (рэфэрат).

# Загатоўка другараднай сыравіны—наша задача

Чаму ў нас няма журавін? Калі-б гэтае пытаньне задаць, скажам, жыхару Мазырскага палесься ці іншай якой-небудзь глухой мясцовасьці, ён бы сьмяяўся нам ў вочы. А між тым, сапраўды, зараз у горадзе цяжка здабыць кілё журавін на кісель. Няўжо-ж, сапраўды, няма ў нас гэтых ягад у Беларусі? Сказаць гэтага нельга ні ў якім разе. Журавін у нас больш, чым трэба, больш за тое, што мы можам спажыць.

Ходзячы на балоце за цецяруком ці белай курапаткай паляўнічы нярэдка натыкаецца на месцы, засеяныя чырвонай, буйнай, як янтар, журавінай.

— І набраў-бы, —думае паляўнічы,—але дзе яе дзенеш! Жонка там трохі сабрала на зіму і хопіць. Прадаць-жа—рэдка купляюць, мала даюць. Хай лепш тут застаюцца, чым зьбіраць яе ды цягаць.

Такія думкі і адносіны да збору гэтых ягад бываюць у вясковага паляўнічага, часта палюючага на балотах, а між тым, гарадзкі жыхар ня мае дзе купіць журавін на кісель. Хіба толькі на вольным рынку здабудзе, плоцячы за літр па 3 рублі. І гэта ў той час, калі журавіны застаюцца зімаваць пад сьнегам на балоце.

Такая-ж справа і з грыбамі, і з іншымі ягадамі і жалудамі.

У канцы верасьня мне прышлося пабываць у Бялыніцкім раёне. У вольны ад працы час з вясковым паляўнічым я пашоў „на рабцоў і цецярукоў“. З раніцы марасіў дожджык, але пад поўдзень распагодзілася, сонца, хаця і слаба, усё-ж такі грэла. У лесе гэтага было няпрыкметна і мы лёгка пераступалі з калоды на калоду, з купіны на купіну, абыходзячы густыя зарасьлі арэхавых кустоў і ельніку. Лес паваленьі—дзялянка. Каля старых, пакрытых гнільлю пнёў, сабраўшыся кучамі, як бабы ў хараводы, жаўцеюць ужо завяўшыя старыя грыбы-апенкі. Пад елкамі, схіліўшы на бок галовы, чарнеюць перасьпеўшыя аблезлыя баравікі, на рабінах пленкамі красуецца высьпеўшая рабіна...

Пахадзіўшы ў лесе, мы вышлі на вялізарнае, так зв. „голае“ балота. Гэта балота цягнецца на некалькі кілёмэтраў уздоўж і ўшыркі. Ногі цапляюцца за верас, за пахучы багуньнік, на якім яшчэ вісяць пленкамі пасінеўшыя і зморшчаныя ад сонца „дурніцы“ (гонобоболь). Пры дакрананьні нагой яны зьлятаюць з ветак і бясшумна падаюць на мяккі мох.

Па балоце раскіданы дробныя прыземістыя сасоначкі. Між імі на сонцы жаўцее мох, па якім шнурочкамі, нібы начэпленыя на нітку, ляжаць на сонцы буйныя журавіны. Я сагнуўся, падняў іх некалькі і паклаў у рот і зараз-жа выплюнуў—„Горкія, а кісель зварыць з іх вельмі добра“,—падумаў я.

Журавін тут вельмі шмат. Звычайна сяляне іх зьбіраюць у вялікай колькасьці, бяручы толькі буйную і здаровую ягаду, запаўняюць ёю кадушкі, частку прадаюць, а частку пакідаюць на зіму на „усякае зельле“. Большая-ж частка гэтых ягад застаецца на зіму і бескарысна гіне.

Да Кастрычнікавай рэвалюцыі гандляры езьдзілі на конях па вёсках спэцыяльна загатаўляць журавіны і плацілі на 15—20 капеек за пуд. Такім чынам, каб зарабіць 30—40 капеек, трэба было зьбіральшчыцы цэлы дзень насіць на плячох два пуды, а для таго, каб зарабіць у дзень рубель, трэба насіць ня менш пяці пудоў. Вядома, таму насельніцтва ня было зацікаўлена зборам ягад ня толькі журавін, але і іншых. Грыбы зьбіраліся больш ахвотна, хаця і іх вельмі шмат застаецца нявыбранымі на зіму.

Пасьля Кастрычнікавай рэвалюцыі попыт на ягады зьменшыўся. Вясковая каапэрацыя, у якую ўваходзіць і паляўнічая, паставілі справу загатовак ягад і грыбоў няўдала. Зьбіральнікі езьдзяць па вёсках вельмі рэдка, адносяцца да гэтай справы дрэнна, таму, нярэдка, сабраная сялянкай ягада застаецца гнісьці дзе-небудзь на вышках у кубле,—праца прапала. Усё гэта паменшыла зацікаўленасьць насельніцтва ў зборы ягад і грыбоў.

Другія запытаюцца, якое дачыненьне маюць журавіны, іншыя ягады і грыбы да паляўнічай каапэрацыі? Мы страляем птушак і зьвяроў! Якая нам справа да таго, што гіне дарэмна на балоце і ў лесе?!

Так развамажаць можа толькі чалавек, які глядзіць на ўсё павярхоўна. Для таго, каб палепшыць сваё існаваньне, трэба правільна, умела, шчыльна і рацыянальна выкарыстоўваць тое, што дае нам прырода. У горадзе няма журавін, а ў вёсцы яны гніюць на балоце. Вясковы паляўнічы топча нагамі журавіны, а чаму ён ня возьме сваю сям'ю і ў вольны час не павядзе зьбіраць журавіны, ці інш. ягады, грыбы або жалуды, ходзячы па балотах і лясох і бачучы, дзе іх урадзілася шмат? Таму, што на вёсцы вельмі кепска працуе каапэрацыя, у тым ліку і паляўнічая. Таму, што загатоўка гэтых відаў прадуктаў вядзецца з рук вон кепска, а паляўнічая каапэрацыя, якой-бы належала ня менш чым іншым сыстэмам заняцца гэтым, зусім нарыхтоўкамі не займаецца. Між тым, сабраныя ягады нярэдка застаюцца, як гэта было сказана, гніць у сабраўшага іх. Калі-б усе сыстэмы каапэрацыі на вёсцы наладзілі гэтую справу—справу нарыхтовак—наладзілі попыт, былі-б і прапановы і ў гарадох і прамысловых цэнтрах, было-б колькі хочаш ягад. Апрача таго была-б забясьпечана імі наша кансэрвная прамысловасьць, аб чым мы скажам некалькі слоў ніжэй.

У мінулым годзе на пленуме Белкахотсаюзу было шмат гутаркі аб нарыхтоўцы другарадных відаў сыравіны, але гэтая гутарка так і засталася. Была яна перанесена і на старонкі нашае часопісі—займацца нарыхтоўкамі паляўнічай каапэрацыі другарадных відаў сыравіны—ягад, грыбоў, лекавых траў і пухпяра, ці не займацца?—Урэшце прышлі да таго, што займацца нарыхтоўкамі трэба паляўнічай каапэрацыі. Такім чынам, пры разьвярстаньні пляну па гэтых відах нарыхтовак вядомы процант паў і на паляўнічую каапэрацыю, які і застаўся нявыкананым, бо ў сэнсе падрыхтоўкі да гэтай работы, як кадраў, так і ўсяго неабходнага, нічога зроблена ня было...

Між тым, паляўнічая каапэрацыя магла б пасьпяхова заняцца гэтай работай. Яна мае ўсе неабходныя ўмовы для правядзеньня гэтай работы. Можна было кожнаму таварыству заняцца, разам з засол-

кай дзічы, якую, да рэчы, меркавалі ўтварыць ды нічога не зрабілі, і засолкай грыбоў. Справа вельмі карысная. Можна было-б заняцца і нарыхтоўкай сьвежых ягад, а таксама і сухіх і г. д. і г. д.

Пытаньне збору і нарыхтовак грыбоў і ягад у сучасны момант набывае асаблівае значэньне. Кансэрвная прамысловасьць з кожным годам разьвіваецца і расьце. Ужо зараз ёсьць у Беларусі больш за паўсотні прадпрыемстваў, якія займаюцца пераробкай гародніны, садовіны, дзікіх ягад і грыбоў. Для яшчэ большага пашырэньня гэтага віду прамысловасьці патрабуецца яшчэ большая колькасьць, чым раней, вышэйпаказаных гатункаў сыравіны. Дабрабыт працоўных мас СССР з кожным годам паляпшаецца, попыт на прадукты кансэрвовай прамысловасьці расьце, а таксама будзе расьці і на ягады і грыбы ў неапрацаваным выглядзе. Апрача дзікіх ягад і грыбоў, трэба некалькі слоў сказаць аб лекавых травах.

Хаця паляўнічая каапэрацыя была ўзяла абавязак нарыхтовак гэтага віду сыравіны, але нарыхтаваць нічога не змагла. Вядома, ніводзін разумны чалавек ня можа спрачацца, што на палёх, у балотах і лясох на абшарах Беларусі не растуць тыя травы, якія патрэбны для нашае прамысловасьці для пераапрацоўкі іх на лякарствы. Гэтых траў шмат, але ў паляўнічай каапэрацыі была пастаўлена праца так, што яна не магла заняцца гэтым. А між тым, патрэбнасьць у лекавых травах для прамысловасьці вялікая і з ростам нашага сацыялістычнага будаўніцтва будзе расьці.

І так, мы тут паказалі якую карысьць і значэньне маюць і набываюць у сучасны момант дзікія ягады, грыбы і лекавыя травы. Зараз трэба некалькі слоў сказаць і аб рабоце нашага паляўнічага апарату. Як было ўжо сказана, нарыхтоўкі гэтых відаў сыравіны паляўнічай каапэрацыяй у мінулым нічога ня далі. Прычынай гэтаму служыла тое, што шмат працаўнікоў проста ігнаравалі гэтую справу, не хацелі ёй займацца, казалі:—не паляўнічага гэта справа.—Бязумоўна, у далейшым трэба з такімі настроямі павесьці барацьбу.

Другой прычынай зрыву нарыхтовак—трэба сьмела сказаць,—служыла наша няўмеласьць працаваць. Надыходзіў сэзон нарыхтовак, Белкахотсаюз узяў на сябе абавязак гэтых нарыхтовак, даў дырэктывы—і на гэтым спыніліся. Ня было дакладнай нарыхтоўкі, ня было інвэнтару, ня было таго-другога, што неабходна для гэтай справы. Усё гэта трэба аднесьці за кошт нежаданьня працаваць у гэтым напрамку—галоўным чынам, бо пры жаданьні можна было-б адхіліць, зжыць гэтыя недахопы ў працы.

Трэцяй прычынай было тое, што там-сям ня было каму працаваць, ня было кадраў. Але аб гэтым мы гаварыць тут ня будзем, бо ўжо раней шмат гаварылася. Мы толькі напомнім Белкахотсаюзу, каб ён, рыхтуючы кадры для нашай каапэрацыі і гаспадаркі, у гэтым годзе ня мінуў гэтага пытаньня, і зрабіў-бы так, каб кадры былі для ўсіх галін нашае працы.

Навучыўшыся на памылках мінулага году, трэба пазбавіцца ад іх у будучым.

Для гэтага, загадзя, зараней трэба прыняць усе тыя меры, якія неабходны для нарыхтовак другарадных відаў сыравіны. Гэта наша справа.

**М.**

**Паляўнічая практыка**

# Паляваньне на зайца з ганчакамі.

Некаторыя паляўнічыя думаюць, што зайца з-пад сабакі (гоннага) трэба перахапліваць там, адкуль нясецца гон (голас) сабакі, г. зн., што заяц ідзе пад гонам зусім недалёка ад сабакі, незалежна ад мясцовасьці. Гэтыя паляўнічыя, звычайна, ідуць дзе папала, не разьбіраючыся ў мясцовасьці і ня ведаючы перасмыкаў зьвера. Тут-жа бегае нюхаючы сьляды, ганчак. Раптам заліўся сабака і званочкамі пакаціўся гон па ваколічных пералесках. У паляўнічага задрыжэла ад нечаканасьці сэрца. Ён перш-на-перш кідае погляд на ганчака, нібы той павінен яму адказаць: „Будзе ўдача, ці не?“, а потым упіваецца вачмі ў белую далячыню зімы, каб злавіць на ёй скачучую шэрую кропку зайца. „Вунь ён, вунь!“—крычыць сам сабе паляўнічы і рука машынальна кладзецца на прыклад стрэльбы, трэснулі пры ўзводзе куркі. Тады паляўнічы, усьлед за сабакам кідаецца з усіх ног у той бок, куды пайшоў заяц, а за ім сабака, запыхаўшыся бяжыць, паляўнічы спыняецца, углядаецца ў далячыню, паварачвае галаву і прыслухоўваецца да гону, потым зноў бяжыць. Але вось гон спыніўся. Паляўнічы здымае з плячэй рог, трубіць, клікае сабаку. Такія паляўнічыя часьцей вяртаюцца дахаты „папамі“, чым з дабычай.

Як-жа паляваць з сабакам ганчаком за зайцам, асабліва шараком? Аб гэтым паляваньні вельмі шмат пісалася раней і пішуцца зараз, але, як толькі справа даходзіць да канкрэтнага выніку, да таго: дзе, як і што рабіць, калі сабака падняў і пагнаў зайца, дык гэтыя спэцы паляўнічыя, звычайна, гавораць: „для таго, каб паляўнічыць з ганчаком за зайцам, трэба ведаць мясцовасьць, трэба заняць лазы і стаяць, ня зыходзячы з месца“, але яны не закранаюць у гэтым паляваньні дробязяй, якія, ня рэдка, маюць рашаючае значэньне. У гэтым выпадку спэцы звычайна кажуць: „дзе станавіцца, куды бегчы і г. д.—гэта справа доўгагадовай практыкі“. Гэта зусім верна, але кепска тое, што яны не жадаюць растлумачыць і навучыць маладога паляўнічага, каб ён паляваў пасьпяхова.

Перш-на-перш, калі паляўнічы ходзіць з ганчаком на паляваньне адзін, тут зусім ня трэба стаяць на месцы, ня трэба і нават нельга заняць пярэсмыку зьвера. Таксама не абавязкова ведаць месца (бязумоўна лепш паляўнічаць у той мясцовасьці, якую ведаеш). Прышоўшы на месца паляваньня пускаеш ганчака, а сам ідзеш і мяркуеш: „Вунь там кусты. Калі заяц падымецца, куды ён пойдзе? Справа — голае поле, зьлева таксама, але вунь уперадзе сінеецца на гарызонце сьцяна хмызьнячку. Вядома, заяц і пабяжыць туды“.

Сабака пачуў сьлед. Вось ён піснуў. Вось выскачыў з-пад сьнегу шарак і шэрым клубочкам пакаціўся па чыстаму полю. Але—не! Паварачвае ўлева і стралой нясецца на хмызьняк, а за ім голасам ганчак.

У гэты час зусім ня трэба бегчы па сьлядох зайца

і сабакі, але, калі сабака надзейны, ня кіне хутка зайца, трэба ісьці да таго хмызьняка, куды пабег заяц. Сабака ўсё голасам ідзе па сьледу. Вось ён ужо ўвайшоў у хмызьняк, дае голас, разьбіраючыся у сьлядох. Другія думаюць, што заяц ужо пайшоў далёка. Гэта памылка. Заяц ідзе далёка ад ганчака толькі па чыстым полі, але ў густым сасоньніку, ельніку, наогул у зарасьлях—ён ідзе маленькімі скачкамі, часта прысядзе, абцірае лапкамі пысу і г. д.

Прышоўшы да месца, да хмызьняка, трэба забегчы наперад, стаць на другім баку хмызьняка і, прыслухоўваючыся да голаса сабакі, мяняць месца і шчыльна прыглядацца. Заяц кожную мінуту, пад напорам сабакі можа выскакнуць на край хмызьняку.

У маёй практыцы быў такі выпадак. Лістападаўскі студзёны дзень. Уначы трохі падсыпала сьнегу. Мы ўтраіх з адным паратым рускім ганчаком выйшлі на зайцоў. Каля нас быў і ганчак, а трэці таварыш пайшоў на паўкілёмэтра правей нас. Раптам сабака, як ужалены, закаціўся гарачым яхканьнем. Заяц, незамечаны намі, выскачыў з лесу і панёсься па чыстаму полю, але потым павярнуў на дробны, плошчай у які-небудзь гектар ці больш, лясок, які быў ад нас прыблізна на кілёмэтр справа.

Паколькі мы не намераны былі паляўнічыць па полю, а ішлі на беляка ў лес, дык ні таварыш, ні я не зьвярнулі ўвагі на гон, а сталі клікаць сабаку. Апошні ўсё-ж пайшоў сьледам за зайцам. Яго голас станавіўся ўсё слабей і слабей, а потым і зусім сьціх.—„Страціў!“— зьвярнуўся да мяне таварыш. —„Ну, і добра. А то час трацім,“—адказаў я.

Мы пастаялі з поўгадзіны. Сабака не вяртаўся. Толькі што мы хацелі зноў трубіць, як раптам глуха, у тым самым маленькім ляску, пачуўся стрэл...

Хутка да нас падыйшоў трэці таварыш і сказаў: —„Іш, чорт! Дзе сабака, а дзе заяц! Я пачуў гон яшчэ каля вас, а заяц ужо ўскочыў у лясок. Стаў я на краю з другога боку ляска таго і чакаю, думаю сабака на мяне пагоніць. Стаю, вось ужо і сабака ў лясок увайшоў, гоніць, усё бліжэй і бліжэй а зайца ўсё няма. —„Можа выскакнуў, — думаю. — Не, сабака на мяне ідзе“. І толькі тады выбег заяц з кустоў, калі сабака аж на яго наскочыў. Тут я яго і прыхлопнуў.

І так, для таго, каб не вяртацца з паляваньня папом, калі ідзеш з ганчаком на зайца адзін, ня трэба ісьці на паляваньне ў суцэльны лес або чыстае поле. Лепш за ўсё паляўнічыць у такім выпадку ў такіх мясцох, дзе па полю параскіданы невялічкія балотцы, хмызьнякі, кусты. У суцэльным лесе зайца цяжка пераняць, бо нават цяжка пазнаць напрамак гону з тае прычыны, што рэха аддаецца зусім у другім баку і прымаецца за гон. У чыстым полі заяц шарак ідзе вельмі далёка і амаль ніколі ня бывае каб ён вярнуўся на месца лежкі. У тым-жа месцы дзе па полю шмат балотцаў і ляскоў, паміж якіх зелянее ўвосень рунь, больш за ўсё зайцаў і тут лепш за ўсё паляўнічаць аднаму. Заяц тут скоча вялікімі скачкамі толькі ад балотца, да балотца, ад ляска да ляска, але ўжо ў кустох, як гэта было гаворана, бяжыць памалу, часта садзіцца, прыслухоўваецца, абціраецца лапкамі, а таму ёсьць час забягаць яму наперад. Пакуль заяц ня выбегае ўсе кусты, ён ня выйдзе з ляску ці з балотца, а гэта цягнецца даволі доўга, калі сабака не пароты, а пешы.

Пры такім паляваньні (у адзіночку) прышоўшы на месца паляваньня і пусьціўшы сабаку трэба разгледзіць, дзе якія ляскі, балотцы і кусты маюцца паблізку і, калі сабака падыме і пагоніць зайца, зусім ня трэба бегчы за ім, ня трэба гарачыцца, ня трэба чапаць сабаку (калі ён добры ганец), а толькі неабходна вызначыць напрамак гону па голасу сабакі (калі сабака пароты, гоніць зайца шпарка— гэта зрабіць лягчэй, чым пры пешым) і накіравацца да таго ляска ці балотца, у які пабег шарак (а ён яго ня міне), потым стаць на другім баку ляска і чакаць, пакуль сабака выгане зайца, адпаведна з напрамкам, зноў-жа, гону, мяняючы месца.

Другая справа, калі паляваньне кампанейскае, з некалькімі ганчакамі. Тады, апрача гонных, бывае выскакваюць зайцы на поле шумавыя (пры адным сабаку іх менш). Тады можна паляваць і ў суцэльным лесе, раставіўшы стральцоў і заняўшы ўсе лінейкі і дарогі. Тады можна і, нават, трэба стаяць на адным месцы, на т. зв. пярэсмыку, зараней абмеркаваўшы мясцовасьць. Тады, гледзячы па мясцовасьці, адзін заходзіць і пускае сабак у той час, калі стральцы занялі ўжо дарогі і лінейкі.

Тады, бязумоўна, пры добрых ганцох можна паляўнічыць і ў чыстым полі, бо заяц, робячы колы так ці інакш нідзе ня дзенецца і не на аднаго, дык на другога нарвецца.

Было гэта летась. З вечара абяцала адліга і на заўтра добрае паляваньне. Нас сабралася пяць чалавек. Было двое добрых ганчакоў, прыехалі на месца. Тут невялікі лясок, абапал якога пахаць, рунь, хмызьнякі. Сьлядоў зайца шмат і як выпусьцілі ганчакоў, адразу ўзялі сьлед і заліліся. Мы сталі на свае месцы, адзін, аднаго ня бачым і здаецца што застаўся адзін, таварышы ўжо пайшлі далёка, А гон усё льлецца. Вось ён правей ад мяне, лявей. але я стаю, бо там таварышы. Вось гон ужо, блізка. Гляджу я на край леса; нібы нешта скокнула. Зайчык высунуў з лесу, сеў за елачку і лапкамі пысу абцірае. І жалка зайчыка і стрэліць хочацца. Ня вытрымаў, стрэліў і відна, як зайчык вяла апусьціўся да долу...

Гналі сабакі аднаго зайца, а стрэлы былі і там, і тут, з усіх бакоў леса. Сабраліся мы, аказалася, што было забіта яшчэ тры зайцы, ужо шумавых.

Так, тут, пры кампанейскім паляваньні бязумоўна карысьней стаяць на сваім месцы, пакуль не пачуеш трубу, пакуль ня ўпэўнішся, што сабакі зайца кінулі. Але такое паляваньне, каб мінуць розных даволі няпрыемных выпадкаў, трэба заўсёды праводзіць організавана, выбраўшы старшага, які павінен кіраваць паляваньнем, даваць напрамак паляваньню, запускаць сабак і г. д. і г. д. Інакш можна самім адстаць адзін ад аднаго і сабак пацяраць. У заключэньне трэба сказаць што як пры кампанейскім паляваньні, так і пры паляваньні ў адзіночку лепш за ўсё сабакі паратныя, ідучыя за зайцам шпаркім тэмпам. Лепш таму, што хутка перасоўваючыся з месца на месца, лягчэй вызначыць напрамак гону, калі ня бачыш самых сабак, апрача таго такія сабакі не дадуць зайцу шмат пабегаць і заблытаюць сьляды.

У гэтым артыкуле мы спыніліся на паляваньні за зайцам з ганчакамі, аб якім ужо ня раз пісалася ў нашай часопісе, таму што ў ранейшых артыкулах гэтыя пытаньні ня былі дакладна абгавораны, было сказана не дакладна, наогул, што часта ўводзіла ў заблуджэньні маладога паляўнічага.

**Практык**

# Трусагадоўля па сыстэме Белкахотсаюзу на 1932 г.

Згодна кантрольных лічбаў на 1932 г. па лініі Белкахотсаюзу павінна быць арганізавана 35 трусагадоўчых гаспадарак з асноўным стадам у 9.000 галоў з 70.500 шт. прыплоду ад іх. Гэты плян ня можа быць выкананы пры захаваньні клетачнага спосабу разьвядзеньня трусоў, які да гэтага часу ня даў станоўчых вынікаў. Вось чаму, улічыўшы вопыт мінулага году, Белкахотсаюз у 1932 годзе мяркуе перайсьці да новых спосабаў трусагадоўлі, да групавага разьвядзеньня іх.

Канкрэтнымі формамі гэтага (групавога) разьвядзеньня трусоў зьяўляюцца наступныя:

1. *Гарэнны* спосаб, пры якім для трусоў адводзіцца пэўны вучастак зямлі і лесу плошчаю ад аднаго гэктару і больш. Гэтыя вучасткі абносяцца спэцыяльнай загарадзьдзю, у якой трусы жывуць на волі (разам самцы і самкі) круглы год. Догляд за імі заключаецца толькі ў забесьпячэньні іх неабходнай колькасьцю натуральных кармоў, а на выпадак недахопу апошніх—арганізуецца так званая падкормка і ў схове трусоў ад усялякіх драпежнікаў, нарэшце ў адлаўліваньні маладняку ўвосень. Але посьпех такога спосабу разьвядзеньня будзе залежыць ня толькі ад арганізацыі догляду за трусамі, але і ад таго, дзе будуць адведзены пададзеныя вучасткі, якія абавязкова павінны быць сухімі, гарыстымі, багатымі расьлінасьцю і г. д.

Гаспадаркі з такім спосабам разьвядзеньня трусоў Белкахотсаюз мяркуе арганізаваць у *Рэчыцкім, Бярэзінскім, Гомельскім, Чачэрскім, Рагачоўскім, Мазырскім, Бабруйскім і Бешанковіцкім раёнах*.

2. *Спосаб разьвядзеньня трусоў на выспах пасярод возер*. У прынцыпе гэты спосаб нагадвае сабою *гарэнны*, але выгадна адрозьніваецца ад яго тым, што не патрабуе штучнай загарадкі данага вучастку, якую замяняе вада, што бясспрэчна, робіць больш таннымі выдаткі. Пры гэтым спосабе трусоў, таксама як і пры гарэнным, зімою, (а на выпадак патрэбы і летам) трэба будзе падкармліваць у спэцыяльных ясьлях-кармушках.

Аднак, гэты спосаб мяркуецца пакуль што ўжыць як першапачатковы вопыт у раёнах: *Гарадоцкім, Чашніцкім і Бешанковіцкім*.

3. „*Паркетны*“ спосаб разьвядзеньня. Гэты спосаб зьяўляецца зусім новым у нашых умовах. Галоўная адзнака яго ў тым, што ў адпаведзеныя накшталт гарэн (але менш іх разьмерам) вучасткі пускаюцца выключна трусаматкі пасьля злучкі іх, якія, праз паўтара месяца пасьля акоту, адлучаюцца ад маладняка, зноў злучаюцца з самцамі і пускаюцца ў „паркеты“.

Гэтую трэцюю сыстэму разьвядзеньня трусоў мяркуецца арганізаваць у *Лёзьнянскім* раёне (Дабрамысьленскі саўгас паляўнічай гаспадаркі), у *Сіроцінскім, Дрысенскім* і *Полацкім*.

Усе гэтыя спосабы разьвядзеньня, з тае прычыны, што яны яшчэ ня добра намі выпрабаваны, будуць ужыты ў адзначаных гаспадарках у дачыненьні толькі да 40-50 проц. трусінага стада, тады як астатняя частка яго будзе некаторы час гадавацца па вядомай ужо нам клетачна-выгульнай сыстэме. Яна пераважна і будзе практыкавацца ў 1932 г. ва ўсіх наогул трусятніках Белкахотсаюзу.

Апрача пададзеных мерапрыемстваў у дачыненьні да самага прынцыпу трусагадоўлі ў сэнсе сыстэмы, перад усімі трусагадоўчымі гаспадаркамі стаяць зараз задачы адпаведнай работы ў напрамку палепшаньня якасьці скуркі і мяса нашага мясцовага труса шляхам мэтызацыі яго (матак) з лепшымі пародамі вытворцаў. Гэта неабходна зрабіць нам тым больш, што пародзістых трусоў і асабліва трусаматак у нашых трусаводных гаспадарках недастаткова. Купіць-жа іх цяжка ды і каштуюць яны вельмі дорага (каля 35 руб. штука). Для гэтае мэты частка нашых трусатнікаў будзе працаваць з палепшаным, на палову пародным матар'ялам з тым, каб падрыхтаваць пэўны матар'ял для астатніх гаспадарак у 1933 г.

Гаспадаркі з палепшаным матар'ялам Белкахотсаюз мяркуе адчыніць у *Петрыкаўскім, Койданаўскім, Гарадокскім, Віцебскім* і *Полацкім* раёнах.

Вось кароткі пералік тых мерапрыемстваў, што мяркуе ажыцьцявіць Белкахотсаюз у 1932 г. у мэтах падвышэньня прыбытковасьці і рэнтабельнасьці разьвіцьця трусагадоўлі ў БССР у адпаведнасьці з задачамі, якія пастаўлены камуністычнай партыяй перад паляўнічай сыстэмай. І бязумоўна, справа правядзеньня ў жыцьцё пададзеных меркаваньняў будзе залежаць ня толькі ад дзейнасьці Белкахотсаюзу, але і ад актыўнага ўдзелу ў гэтай справе шырокіх мас паляўнічых і нашых раённых таварыстваў.

Б. С.



Элеватар у саўгасе „Гігант“ (гл. нарыс „Пераможаны стэп“)

# Магільшчыкі трусагадоўлі

На чацьверты квартал гэтага году Белкахотсаюз атрымаў заданьне здаць на мяса 13.800 штук трусоў (жывых ці бітых). Гэтае заданьне было разьмяркована сярод раённых т-ваў, якія мелі ўсе магчымасьці выканаць дадзеныя заданьні.

Выкананьнем гэтага пляну т-вы павінны былі ліквідаваць тыя прарывы, якія скляліся ў іх у выніку недавыкананьня імі заданьня па кантрактацыі прадукцыі трусоў. Некаторыя т-вы добра справіліся з гэтай задачай і пачалі нарыхтоўку. Некаторыя-ж зусім не зацікавіліся гэтай справай, вельмі важнай у сэнсе забесьпячэньня рабочага снабжэньня. Напрыклад, Аршанскае т-ва, якое атрымала заданьне нарыхтаваць 200 шт. трусоў, здасьць у чацьвертым квартале толькі *2(!) трусы* закантрактаваных і *8 штук з уласнага трусятніку(!)*

Другі прыклад — Сеньненскае т-ва паляўнічых. Яно атрымала і вучастак зямлі для трусятніку (а калі не, дык мела магчымасьць атрымаць) з будынкамі, але трусагадоўляй не зацікавілася і замест гэтага адпісвае Белкахотсаюзу—„Трусагадоўлі ня маецца“. Атрымаўшы-ж заданьне па нарыхтоўцы трусінага мяса гэтае т-ва адказала:

— Трусятніка ў нас няма і нарыхтоўкай трусіных тушак мы не займаліся.

А кантрактацыя, а закупка трусоў як у індывідуальных, так і калектыўных гаспадарках? Ці скарыстала т-ва гэтыя магчымасьці? Наогул, што зрабіла яно для выкананьня заданьня, акрамя вельмі сваячасовых „адпісак“? Цікава і тое, што і ў Аршанскім і Сеньненскім раёне сярод насельніцтва трусагадоўля разьвіта, трусоў у раёне ёсьць шмат, але не бягуць яны, праклятыя, у канцэлярыі гэтых т-ваў, не жадаюць канчаць самагубствам! Адным словам, трусы там разумныя, але трусагадоўляй у гэтых раёнах, як відаць, кіруюць магільшчыкі яе.

**Ведаючы.**

# Вынікі кепскай працы

Бясспрэчна, справа разьвядзеньня трусоў—новая, яшчэ ня зусім стала вывучана, а таму на першых кроках патрэбна асаблівая ўвага да гэтай працы, якая і адсутнічае ў Рэчыцкім т-ве паляўнічых.

Працаўнік, які працаваў у трусятніку, справай разьвядзеньня трусоў ня быў зацікаўлены і грошы атрымоўваў мабыць за тое, што добра губіў трусоў. На трусятнік страчана некалькі тысяч рублёў, пабудаваны клеткі, куплена маемасьць, але сталага дагляду за гэтай маемасьцю няма. Клеткі стаяць на зямлі, гніюць, ніколі ня чысьцяцца. Падсьцілка для трусоў не мяняецца, корм даецца бяз нормы і самы разнастайны, у большасьці—сырая трава і лаза. Адсутнічае догляд за котнымі самкамі, у выніку чаго прыплод атрымоўваецца пад клеткамі, гіне і гніе там. У трусятніку наглядаецца поўнае антысанітарнае становішча. Трупы трусоў, прыдаўленых клеткамі, гніюць і з памяшканьня ня выносяцца.

Усё гэта спрыяла таму, што амаль усе трусы захварэлі і пачалі гінуць. І толькі тады, калі пачаўся павальны падзеж трусоў (да 10 шт. у дзень), праўленьне зьвярнула на трусятнік увагу.

Зараз трусавод зьняты з працы і згодна пастановы праўленьня справа яго павінна быць перадана ў суд. Але прайшло больш трох месяцаў і сваёй пастановы праўленьне ня выканала. Паляўнічыя патрабуюць аддачы пад суд шкодніка сацыялістычнага будаўніцтва.

Зараз справа з трусятнікам палепшылася. На працу вылучаны паляўнічы тав. Вевероўскі, які з самага-ж першага часу ўсю ўвагу зьвярнуў на папярэджваньне сьмерці трусоў. У выніку ім зроблена вялікая праца. Праведзена поўная дэзынфэкцыя клетак і памяшканьня, клеткі пастаўлены на слупкі, праведзены агляд трусоў, хворыя з іх адлучаны ад здаровых, маладняк адлучаны ад старых. Праводзіцца сталая чыстка клетак, трусы пераведзены выключна на сухі корм. Падзеж трусоў значна паменшыўся.

Гэтыя *дасягненьні атрыманы* толькі дзякуючы таму, *што тав. Вевероўскі зацікаўлены гэтай справай*, палюбіў і выкарыстоўвае ўсе магчымасьці для хутчэйшага папярэджаньня згубы трусоў.

Надалей намечаны канкрэтныя мерапрыемствы па пашырэньні трусятніка. Зараз трусятнік налічвае каля 200 трусоў. Можна быць упэўненым, што праз год гэты трусятнік будзе прыкладным па догляду і разьвядзеньню трусоў.

Праца мінулага працаўніка няхай зьявіцца прыкладам таго, як не патрэбна працаваць, а *вопыт новага таварыша хай стане прыкладам* як патрэбна працаваць.

Пры бальшавіцкай барацьбе за разьвядзеньне трусоў, пры ўсёй сур'ёзнасьці адносін да трусятніка як з боку праўленьня, так і тэхнічных працаўнікоў, Рэчыцкія паляўнічыя ўбачаць у самы кароткі тэрмін свой трусятнік узорным, перанясуць вопыт гэтага трусятніка ў свае калгасы.

Паляўнічыя павінны ў першую чаргу стаць ініцыятарамі ўкамплектаваньня фэрм па разьвядзеньні трусоў.

**А. Вераб'ёў.**

# Бяз руля і без вятрыл

„Пастаноўка арганізацыйна-гаспадарчай работы ў Пухавіцкім раённым т-ве паляўнічых у сучасны момант *надта слабая.* Старшыня Праўленьня т. Кудзін ня хоча ўдзяляць належнай увагі кіраўніцтву работай т-ва. А з гэтае прычыны астатнія працаўнікі апошняга (заг. крамай і сакратар), якія фактычна працуюць самастойна, у сваю чаргу не спраўляюцца з работаю ва ўсіх галінах разьвіцьця паляўнічай гаспадаркі раёну.

Пры абсьледваньні двух трусятнікаў гэтага трусаводы апошніх (т. т. Луцэвіч і Ачапоўскі) таксама заявілі, што з боку раённага т-ва няма належных указаньняў наконт разьвядзеньня і гадоўлі трусоў.

Запушчанасьць рахункаводзтва не дае магчымасьці атрымаць сталага ўяўленьня пра становішча і ўстойлівасьць грашовай часткі т-ва.

Значна ўзросшы колькасна калектыў паляўнічых, у сэнсе арганізацыйнай і культурна-масавай работы сярод членаў яго, знаходзіцца фактычна па-за ўвагаю праўленьня. Усялякая сувязь паміж апошнім і нізавымі ячэйкамі зусім адсутнічае.

Неабходнымі мерапрыемствамі ў справе палепшаньня пададзенага становішча ў далейшым павінна зьявіцца:

1. Тэрміновае вылучэньне добрага працаўніка ў якасьці старшыні праўленьня.
2. Укамплектаваньне штату т-ва адпаведнымі тэхнічнымі працаўнікамі.
3. Тэрміновае прывядзеньне ў парадак наогул усёй работы праўленьня і ўвага да яе з боку адпаведных раённых устаноў і арганізацый (РВК, РК КП(б)Б і інш.).

З такімі заўвагамі накіроўваў у РВК яшчэ ў ліпені м-цы здымак з акту абсьледваньня становішча работы Пухавіцкага райтаварыства паляўнічых інструктар Белкахотсаюзу т. Бабчонак. І трэба тут-жа адзначыць, што гэтая (праўда, вельмі агульная і далёка няпоўная) характарыстыка гэтага становішча, тым ня менш, цалкам адпавядала, як і зараз адпавядае, сапраўднасьці, што мы пастараемся давесьці ніжэй.

Зараз-жа ў сваіх мэтах мы адзначым, між іншым, толькі той факт, што пададзены вышэй напамінак т. Бабчонка, і акт абсьледваньня з цэлым радам даволі красамоўных фактаў, характарызуючых сапраўдны малюнак работы райтаварыства, прагучэў і для РВК і для т. Кудзіна нібы „звон погребального колокола“ і застаўся па сутнасьці *„голосом вопиющего в пустыне“*...

З такой катэгарычнасьцю мы падкрэсьліваем зараз гэта апошняе таму, што і на сёнешні дзень работа райтаварыства (праўдзівей праўленьня яго) *пастаўлена, як нельга больш, дрэнна, слаба.* Для таго, каб давесьці гэта, зьвярнемся да фактаў, бо факты, як кажуць, „суть факты“. Пачнем са статыстыкі.

Па зьвестках на 20 лістапада калектыў мае ў сваім складзе 1037 асоб. Па ліку сельсаветаў яны разьбіты на 31 ячэйку. Усе ячэйкі арганізацыйна нібыта і аформлены, але гэтая аформленасьць у лепшым выпадку заключаецца хіба толькі ў тым, што яны ў канцылярыі праўленьня занесены ў спэцыяльныя сьпісы, у якіх адзначаны, між іншым, і кіраўнікі ячэек. Работы-ж сярод іх ніякай не праводзіцца, сувязь адсутнічае.

Маецца раённая крама паляўнічых, далёка неадпавядаючая ўсім запатрабаваньням сапраўднай крамы. У ёй зьмяшчаецца і канцылярыя праўленьня.

З штатных і сталых працаўнікоў райтаварыства маецца загадчык крамы т. Ларыонаў і сакратар праўленьня т. Гулякевіч. Ёсьць два трусаводы. Старшыня працуе па *„сумяшчальнасьці“*, ці, праўдзівей кажучы, *зусім не працуе.* Апрача трусятнікаў, у раёне вызначана арганізацыя заказьніку на тэрмін з 1931 да 1936 году, плошчаю ў 4 тысячы *га.* У іншых галін паляўнічай гаспадаркі раёну працы няма, хоць і маецца шмат прапаноў з боку паляўнічых аб арганізацыі справы сабакагадоўлі і шмат чаго іншага.

— Ну, дык у чым жа справа?—можа сказаць нам хто-небудзь з раённых працаўнікоў.—Ёсьць крама, загадчык, сакратар, *ёсьць трусы,* нават заказьнік арганізаван! Чаго-ж яшчэ трэба?! Няма сталага старшыні—выбачайце... *Нават і ён рэгулярна расьпісваецца у ведамасьці за пэнсію...* Што-ж да работы, дык не абавязкова працаваць самаму старшыні, які, тым больш, заняты сваімі паштовымі справамі. (Ён начальнік паштовай канторы). Нельга-ж так!..

Але мы наперад агаварываемся на выпадак падобных заўваг, што тая безгаспадарчасьць, бясплянавасьць, самацёк, якія назіраюцца ў рабоце Пухавіцкага раённага т-ва паляўнічых, ні ў якім разе ня могуць быць апраўданы ні колькасьцю сяброў саюзу, ні існаваньнем раённай крамы з загадчыкам, ні арганізацыяй заказьніка, ні „сумяшчальнасьцю“ ў рабоце старшыні, ні чым іншым.

На самой справе. Пачаць хоць-бы з таго, што праўленьне ня мае ніякага пляну работ як па лініі арганізацыі ўсіх галін гаспадаркі наогул, так і па лініі арганізацыі шырокіх мас паляўнічых вакол справы пасьпяховага выкананьня ўсялякіх загатовак па сыстэме паляўнічай кааперацыі, вакол пасьпяховага і своечасовага выкананьня тых задач, што пастаўлены зараз Камуністычнай партыяй і Савецкім урадам перад паляўнічай гаспадаркай.

У шчыльнай сувязі з усім гэтым знаходзіцца бясспрэчна, і адсутнасьць усялякай культурна-масавай паліт-асьветнай работы сярод сябраў калектыву; адсутнасьць заключэньня кантракцыйных дагавароў з паляўнічымі па здачы пушніны ў бягучым квартале (як гэта было і ў мінулыя кварталы); адсутнасьць заключэньня дагавароў па сацспаборніцтву і ўдарніцтву паміж ячэйкамі, брыгадамі і паасобнымі паляўнічымі на выкананьне плянавых заданьняў загатовак, адстрэлу бадзячых сабак, катоў, зьнішчэньню драпежнікаў, барацьбы з браканьерамі і г. д.

Усімі гэтымі пытаньнямі, праўленьне Райтаварыства (і асабліва старшыня яго тав. Кудзін) нават і зараз не займаецца і па сутнасьці зусім ня цікавіцца. А між тым, асабліва зараз пададзеныя мэтады работы павінны быць высунуты ва ўсіх галінах на першы плян. Праўда, у гэтай сувязі неабходна адзначыць той станоўчы факт, што паасобныя працаўнікі таварыства, у прыватнасьці загадчык крамы тав. Ларыонаў, у выхадныя дні зрабілі шмат у на-

прамку кантрактацыі трусоў у паасобных індывідуальных гаспадарках раёну, а таксама і ў паасобных калгасьнікаў, заключыўшы ў выніку гэтага дагавароў на здачу ў райтаварыства 724 трусоў. Але-ж пры належнай пастаноўцы гэтай справы, паводле заявы тав. Ларыонава, гэтую лічбу можна было-б давесьці да некалькі тысяч штук.

Як мы ўжо адзначалі вышэй, таварыства мае два трусятнікі, якія чамусьці лічыць за адну гаспадарку. На нашу-ж думку іх неабходна разглядаць як дзьве самастойныя гаспадаркі і вось чаму.

Па-першае, яны знаходзяцца ў двух розных мясцох (у Балоцкім і Сіньчанскім сельсаветах на адлегласьці 9 і 12 кілёмэтраў ад раённага цэнтру).

Па-другое падлягаюць загадваньню двух трусаводаў—т.т. Луцэвіча і Ачапоўскага, хоць фармальна загадчыцам гаспадаркі і лічыцца адзін тав. Ачапоўскі. Але ні ў райтаварыстве, ні ў Ачапоўскага няма агульнага пляну разьвіцьця трусагадоўлі, адсутнічае і сталае кіраўніцтва данымі трусятнікамі.

І нарэшце самае галоўнае — пастаноўка справы догляду трусоў у абудвых трусятніках далёка неаднолькавая. Неаднолькавы і вынікі разьвядзеньня трусоў. Так, незважаючы на тое, што асноўнае стада вясною бягучага году і ў Ачапоўскага і ў Луцэвіча было аднолькавым (яны мелі па 74 старых трусы), вынікі на сёнешні дзень аказаліся рознымі. Пры роўнай страце матак на працягу лета (па 21), трусятнік, які знаходзіцца пад наглядам т. Луцэвіча, мае *374* маладых трусы, тады як у Ачапоўскага іх маецца толькі *197*... Мы ўжо ня кажам тут аб тым, што знадворны выгляд трусоў у Луцэвіча значна лепшы, чым у Ачапоўскага.

Але і гэта ня ўсё. Бо галоўнае—гэта тое, што райтаварыства, трымаючы трусятнікі на сваім бюджэце, тым ня менш на працягу года не цікавілася справай іх вядзеньня, іх становішчам, *не наладзіла сталага ўліку выдаткаў на гэту справу, не падпарадкавала дзейнасьць абудвых трусаводаў свайму нагляду, якія з гэтае прычыны да самага апошняга часу зьяўляюцца самі сабе гаспадарамі.* „Абязьлічка“, як бачым, у даным выпадку, хоць і самацёкам, але праведзена поўнасьцю.

Таму і заяўляе зараз загадчык крамай т. Ларыонаў (старшыня аб гэтым мусіць ня ведае, бо на працягу году ня быў ні ў трусятніках, ні ў таварыстве), што прадукты, якія таварыства адпускае для трусоў, скарыстоўваюцца часам трусаводамі для кармленьня... *сваей уласнай жывёлы.* Тое-ж самае наглядаецца і з грашовымі сродкамі. І што характэрна ў данай сувязі, дык гэта тое, што на ўсё гэта т. Кудзін глядзіць, як кажуць, праз пальцы. І нават больш таго, разам з Ачапоўскім фактычна тармазіць справу ўпарадкаваньня трусятнікаў. Гэта апошняе мы адзначаем вось чаму.

Перад асобнымі працаўнікамі райтаварыства пытаньне ўпарадкаваньня гаспадаркі паўстала яшчэ ўлетку пасьля абсьледваньня становішча яе т. Бабчонкам. Для гэтае мэты райземчасткай было адведзена і пэўнае месца на адлегласьці трох кілёмэтраў ад райтаварыства. Там-жа пад трусятнікі т. Ларыонавым былі куплены 2 гумны, амбар, хлеў, варыўня, заборы, якіх ня трэба нікуды і пераносіць, што мае вялікае значэньне ў сэнсэ выдаткаў на гэту справу. Але гэтага спужаўся Ачапоўскі, які меркаваў перавесьці ўсіх трусоў нават і ад Луцэвіча да сябе, хоць там і знадворныя ўмовы для разьвядзеньня іх ня зусім зручныя (вільготнасьць і інш.). Таму ён падаў заяву ў РСІ, што Ларыэнаў нібы надта дорага заплаціў за будынкі (1500р.) у выніку чаго апошні стаў перад неабходнасьцю скасаваць дагавар з калгасам, у якім адзначаныя будынкі былі куплены.

Такім чынам справа злучэньня абудвых трусятнікаў у адну гаспадарку і перавод іх у зусім новае месца зацягнуліся аж да самага апошняга часу, што дало магчымасьць Ачапоўскаму некалькі лішніх месяцаў *„пагрэцца“* каля трусоў. У райтаварыстве ёсьць заявы (у прыватнасьці ад т. Луцэвіча), што *Ачапоўскі проста прадае трусоў...* І толькі зараз, калі ў гэту справу ўмяшалася РСІ і знайшла мэтазгодным куплю паказаных вышэй будынкаў, і пераводу туды трусоў, Ачапоўскі, як „загадчык“ трусятнікаў, і старшыня праўленьня т. Кудзін заняліся *разважаньнямі* наконт ажыцьцяўленьня пастановы РСІ, хоць, між іншым, і да гэтага часу ні той ні другі і ня маюць яшчэ прынцыповага рашэньня аб тым, колькі трусоў павінна быць пакінута на віму, адкуль атрымаць кармы для іх, бо тых кармоў, што маюцца ў распараджэньні абодвых трусятнікаў зараз, на цэлы год далёка недастаткова.

Такім чынам з усяго адзначанага вышэй відавочным робіцца поўная бязьдзейнасьць перш за ўсе старшыні раённага праўленьня т. Кудзіна у напрамку кіраўніцтва разьвіцьцём паляўнічай гаспадаркі раёну ў поўным сэнсе слова. Гэтым-жа апошнім вызначаюцца і задачы на далейшае. Некаторыя з іх мы коратка падалі ўжо ў пачатку артыкулу словамі т. Бабчонка. Астатнія-ж з іх лічым непатрэбным пералічваць тут з тае прычыны, што яны даволі выразна і поўна сформуляваны т. Бабчонкам у выніках абсьледваньня работы райтаварыства і маюцца ў канцэлярыі яго на некалькіх лістох. Поўнае ажыцьцяўленьне іх у самы кароткі тэрмін і становіць сабою неадкладную і першачарговую задачу для праўленьня.

З свайго-ж боку мы лічым патрэбным дадаць толькі тое, што праўленьню, разам з узмацненьнем арганізацыйна-гаспадарчай работы, неабходна зьвярнуць асаблівую ўвагу і на наладжваньне культмасавай, палітвыхаваўчай работы сярод сябраў свайго калектыву, паколькі апошняя падкрэсьліваем гэта яшчэ раз, у сучасны момант абсалютна адсутнічае.

Неабходна разьвіць таксама ўдарніцкі рух сярод паляўнічых, як галоўнейшага сродка, пра заключэньне кантракцыйных дагавораў, у выкананьні ўсіх заданьняў, што пастаўлены перад паляўнічай гаспадаркай і каапэрацыяй сацыялістычным будаўніцтвам (усіх відаў нарыхтовак, зьнішчэньне драпежнікаў і інш.).

Усяму гэтаму павінна садзейнічаць у значнай меры і РВК, напрыклад, праз вылучэньне ў першую чаргу сталага працаўніка ў якасьці старшыні праўленьня. Наогул у рабоце Пухавіцкага т-ва праводзілася ў самай яскравай форме права-апартуністычная практыка...

**А. С-ка.**

# ПЕРАМОЖАНЫ СТЭП

Трынаццаць год таму назад тут яшчэ грымела страляніна вайны. Шырокі сальскі стэп набракаў крывавым агнём пажараў. Цёмнымі душнымі начамі ярка гарэлі станіцы. Царскія атаманы і генэралы спраўлялі разбэшчаныя дажынкі. Тысячы лепшых сыноў рэвалюцыі навек ляглі ў напорыстым змаганьні за паўночны Савецкі Каўказ.

Іх імёны ўслаўлены гісторыяй. Растоўскі краявы музэй рэвалюцыі раскажа і пакажа вам пра гераічныя справы людзей Кастрычніка і дзікія зьверствы белых. А калі партызаны, калі сотні іх невялічкіх атрадаў зьліліся ў чырвоную армію—нязьмернаю сілаю вызваленьня загрымеў стэп.

Тады-ж сотні генэралаў і палкоўнікаў, тысячы казацкіх атаманаў разам з абрабаванай маемасьцю гарадоў і сталіц рушылі ў вялікім спалоху да мора, каб там прашыцца на параходы і бегчы ад страшнай кары тых, каго яны хацелі трымаць у ярме.

... Стэп ажыў. Закіпелі ў агні клясавага змаганьня станіцы. Пачаўся вялікі перадзел зямлі. Тысячы бядняцка-серадняцкіх гаспадарак пашлі ў калгасы. Тысячы гэктараў зямлі абрэзалі ў кулакоў і далі тым, хто яе век ня меў, далі парабком, якія спрадвеку выносілі на сваёй сьпіне цяжар бязьлітаснай эксплёатацыі.

Але шмат яшчэ зямлі, якая магла раджаць кожны год сотні тысяч тон залатой пшаніцы, ляжала аблогам. А краіна, горад, фабрыкі, заводы, рабочыя, якія ў распаленых мартэнах плавілі сталь, патрабавалі хлеба, сыравіны.

Увосень 1928 году стэп заварушыўся жыцьцём. Штодня да невялічкага будынку станцыі Трубецкай падыходзілі цягнікі, нагружаныя бярвеньнем, дошкамі, сельска-гаспадарчымі машынамі. З вагонаў выскаквалі рабочыя з піламі, сякерамі і вялізнымі клункамі харчаваньня. Старыя, з шырокімі барадамі, маладыя з задорлівым бляскам вачэй, высокія і прысадзістыя, чорнавалосыя і бялявыя,—яны сьпешна распытвалі ў тлумнага начальніка станцыі дарогу ў зернасаўгас „Гігант“ і пасьля моўчкі, зьбянтэжаныя ад нечаканасьці, глядзелі на адзінокую хібарку. Яна была паўвярсты ад станцыі і ледзь прыметна выступала ў рэдкім вячэрнім змроку. А кругом—бяскрайны стэп і задуменная нуда пажоўлай травы.



Вуліца ў саўгасе „Гігант“

Кожны дзень цягнік выкідаў з свайго чрэва людзей, гару будаўнічых матар'ялаў, сотні газэт і лістоў з дальніх куткоў Краіны Саветаў. Тут злазілі інжынэры і тэхнікі будаўнікі, аграномы-мэханізатары і проста аграномы, мэханікі-трактарыстыя і проста рулявыя. Сьлесары, кавалі, каменшчыкі, чорнарабочыя завалодалі маўклівасьцю стэпу. Ад раньня да вечару і нават праз усю ноч стэп грымеў жалезьзем, звонам падоўжаных і простых піл, гахканьнем тапароў аб паддатнае дрэва. Адзін за адным закладаліся падмуркі дамоў над кватэры, склады для машын і гаражы для аўтамабіляў. Ужо выводзіліся пад дах сьцены лазьні, ужо спешна складаўся праэкт вялізнай сталоўкі.

Адной раніцаю паветра загудзела. Затрэслася грукатам матораў першабытная цішыня. Палахліва рынуўся ў сінюю вышыню арол драпежнік і трывожна замахаў крыльлем у бок ад гэтага страшнага стану. Сотня стальных коняй кранулася з месца і няўхільна папаўзла па роўнай і шырокай, як вокам зглядзіць, цаліне. Сотня коньнікаў гэтай нязвычайнай арміі, узброеная ідэяй буйнай соцыялістычнай гаспадаркі, разгортвала паход за хлеб. Упэўнена грымелі маторы і няўхільнай, цьвёрдай, напорыстай была хада машын. Чатырохлямешныя плугі няшчадна рэзалі на скібы тлустае, чорнае цела зямлі.

У гэту-ж восень прадажніцкія буржуазныя газэткі замежжа аж заходзіліся злым сьмяшком ад таго, што пачалося ў сальскім стэпу. Цабрамі чорнага паскуднага бруду і нядобрых прароцтваў поўніліся лісты паперы. „Не пад сілу сабе бальшавікі выбралі работу! Будаваць буйныя мэханізаваныя фабрыкі зерна на сотнях тысяч гэктар у цёмнай адсталай краіне? Ого! Вунь у Амэрыцы, краіне найвышэйшай тэхнікі сьвету, адзін Кенбель Ладзо спраўляецца ўходаць 20 тысяч гэктар! Дык гэта-ж Кенбел, амэрыканец, а не адсталыя расійскія мужыкі!..“

Удзень і ўночы па шырокім стэпу імчаўся гул і грукат работы. Адзін за адною выраcталі з зямлі каменіцы дамоў. Адусюль з гэтага дзіўнага стану пабеглі ў далячынь рознымі бакамі высокія слупы і тэлефонны дрот засьвістаў хаўтурную песьню санлівай маўклівасьці стэпу.

Па шырокай аблоне з ранку і да вечару, як мурашкі, поўзалі каморнікі, аграномы. Злы восенскі вецер стараўся вырваць з іх рук пляны вучасткаў і клетак, на якіх будзе рашацца змаганьне за хлеб, за соцыялізм. Вецер, разьюшаны недаступнасьцю чалавека, узьнімаў сваім напружаным подыхам чорны пыл чорнай зямлі і сьляпіў вочы. Але ня было ўжо адступленьня. І мала хто наракаў на цяжкасьці. Ідэя была яснай, як крышталь, а жаданьне ажыцьцявіць яе—мацней за самы страшны вецер.

Ужо ішоў з поўначы халодны подых зімы. Ужо даўно праімчаліся на поўдзень апошнія стады гусей і качак. Ужо варочаліся са стэпу на цэнтральную базу магутныя „катэрпілары“, засмальцованыя вязкай гразёю. І толькі вялікая аблона ўзьнятай цаліны—*больш за 40 тысяч гэктараў*—ветрылася роўнымі шырокімі скібамі.

— Сам шайтан не ўзарэ столькі,—зьдзівіўся пасьля чаркес з Адыгеі, агледзіўшы вынікі ўдарнай работы трактарыстаў...

Усю зіму грымела майстэрня, спраўляючы здароўе трактароў, плугоў. У насенных складах гудзелі зернаачыстныя машыны. Блізка рыхтавалі атруту для сажы, для поймы палявых шкоднікаў. Змаганьне за хлеб, за высокі ўраджай ішло аж да вясны. Тут не глядзелі сонечнага сьвятла і работа йшла няспынна круглыя суткі, як на вялікім індустрыяльным заводзе.

Камбель, амэрыканец, застаўся далёка адзаду, зьбянтэжаны тэмпамі „дзікуноў - бальшавікоў". Рассыпаліся на пыл енкі правых апартуністаў, што мы ня здольны будаваць буйныя, мэханізаваныя сацыялістычныя гаспадаркі.

Але гэта быў яшчэ не канец зьдзіўленьню недавяркаў. Іх надзеі былі раструшаны нашчэнт практыкай 1930 году. *80 тысяч гэктараў ярыны засеяў за 8 дзён „Гігант"!*

Амэрыка са сваёй найноўшай тэхнікай клыпала далёка ў хвасьце... Пакрыўджаныя тэмпамі будаўніцтва ў краіне саветаў зернагігантаў, жалобна заенчылі і змоўклі буржуазныя пісакі. Яны ўжо выдумлялі новыя паклёпы, новыя паскудныя навіны аб „прымусовай" працы, якою жывуць бальшавікі. А гэтым часам золата пшаніцы савецкіх ніў шугала па элеватарах індустрыялізацыі.

1931 год. Дзе стэп, дзе сівы кавыль? Куды сплылі драпежнікі—арлы— сьведкі змаганьня працоўных за савецкі Каўказ? Ім ужо няма чаго туляцца ў сіняй вышыні, бо няма здабычы ад першабытнай цаліны. Няма і цаліны. 175 тыс. гэктараў засеваў зазелянілі стэп!

Якія дні і ночы гарачай, напружанай работы кіпелі тут. Якія вялікія вышлі перамогі і якая вялікая радасьць і гонар тых, хто часамі ня спаў круглыя суткі, каб толькі выканаць заданьне партыі, наказ усёй краіны. Змаганьне за хлеб—фронт, і перамагаў той, хто быў больш рашучым і паваротлівым. „Праца тут—праца гонару, доблесьці і гэройства". Мы былі сьведкамі цікавай размовы двух рабочых з розных вучасткаў. Месца—цэнтральная база, куды яны толькі што прыехалі на „фордах", каб вырашыць нейкія пытаньні.

— Здароў!—крычыць адзін, вылазячы з аўтамабіля. Ен ідзе, працягнуўшы руку насустрач другому.

Той непарушна трымае рукі ў кішэні і спакойна курыць цыгарку. Потым пытае:

— А ты з якога вучастку?

Першы адказвае і садзіць наперад руку для прывітаньня.

— Пачакай,—ухіляецца другі.—У цябе здаецца прарыў з уборкай.

Першы весела сьмяецца і круціць галавою:

— Памыліўся! У нас усё прыбрана і змалочана. У нас прыгатавана насеньне азіміны. Заўтра мы канчаем вываз у элеватар усяго таварнага хлеба.— Ен рагоча радасьцю і ўжо амаль крычыць:— Нам пераволі ўжо 400 рублёў прэміі, за намі мусіць застанецца і ганаровы пераходны сьцяг райкому.

— Ну, дык здароў!—Плыве здаволеная ўхмылка па абветраным твары другога.—Здароў! Віншую!

Ня спыняючы гаворкі яны ідуць у кантору дырэктара „Гіганта" тав. Багамолкіна, каб праз колькі хвілін зноў сесьці на стальных коняй і паімчацца ў пераможны стэп.

Іх шмат тут, гэтых пемаможцаў. Тры з іх—узнагароджаны ордэнам Леніна—Літвіненка, Багамолкін, Гнідзін...

На цэнтральнай базе ня відаць саламяных стрэх і нудных вучотаў студні. Вялікія пpасторныя камяніцы ўпэўнена аселіся ў стэпу. Аднапавярховая, двух, трох, чатырох... Тутэйшыя „земляробы" баяцца нават думаць пра паасобную кухню і ўсёю сям'ёю харчуюцца ў грамадзкай сталоўцы. Тут ёсьць свая газэта, якая чатыры разы ў пяцідзёнку ставіць у прыклад работу лепшых вучасткаў, рабочых і няшчадна лупцуе гультаёў і галавацяпаў. З тутэйшай пошты вы можаце накіраваць ліст, тэлеграму ў любую часьціну сьвету і сюды-ж вам прышлюць адказ. Свой радыёвузел, тэлефонная станцыя, і вы можаце згаварыцца з любым загадчыкам вучастку. Вам патрэбна якія кніжкі, сшыткі алоўкі, або якія ёсьць каапэрацыйныя тавары? Калі ласка! Тутэйшыя магазыны бадай ці пададуцца тым, што ў горадзе!

А хіба гэта ня горад? Калі ня горад, дык чаго-ж тут адзін за адным снуюць аўтамабілі, чаго вуліцы саснаваны тэлефоннай і электрычнай праводкай? Чаго тут „сквер" і адкуль тут напёрлася дэкарацыйных дрэў і кветак? Чаго тут экскурсійная база і чаго штодзень прыбываюць у „Гігант" з усіх куткоў СССР людзі, чаго наяжджаюць турысты з-за межаў?

Сюды едуць паглядзець на практычныя вынікі напорыстай работы пралетары яту Краіны Саветаў, сюды едуць з усіх куткоў аграномы, кіраўнікі саўгасаў розных рэспублік, ударнікі заводаў, МТС, саўгасаў, калгасаў, каб пераняць вопыт арганізацыі буйнай сацыялістычнай гаспадаркі. Сюды едуць аднаасобнікі бедняні і серадняні, каб абмацаўшы ў „Гіганце" кожную шрубку машыны, узважыўшы на далоні золата пшаніцы стаць, вярнуўшыся дахаты, на шлях калгасаў, каб пацягнуць у калгас тых, у каго яшчэ тузалася ў галаве сумненьне, атручанае кулацкай агітацыяй...

213 трактараў „катарпілар," 260 камбайнаў, сотня відроўцераў, сотні іншых сельска-гаспадарчых машын, які дзесятак коняй... для падвозкі вады. Матор—тут уладарны гаспадар. Тут людзі ведаюць, дзе і што яны будуць рабіць праз дзень, тыдзень, і месяц. Тут камбайн адразу жне, малоціць. Тут адразу чыстае зярно ссыпаецца ў аўтамабілі і адвозіцца з поля для пагрузкі ў вагоны, каб кожны дзень ісьці цэлымі эшалонамі ў гарады сацыялістычнай краіны, дзе сотні тысяч ударнікаў змагаюцца ля мартэнаў, ля варштатаў за жалеза і сталь, за мэханізацыю сацыялістычнай сельскай гаспадаркі.

Спрадвечны нудны сон стэпу патрывожаны. У цемені летняй ночы па ім ходзяць упэўненыя яркія агні ад вачэй стальных коняй. Падатная здаволенная стогне ад мартэнаў зямля. Упартыя новыя людзі няспынна змагаюцца за хлеб, за соцыялізм!

**М. Пасьлядовіч.**

# ЛІСЫ ВЫРУЧЫЛІ

Неяк уначы выпаў сьняжок і такая пароша добрая з раньня была, што сама раз лісоў ды зайцаў ганяць,—пачаў сваё апавяданьне Міхалка Шапавал. —І дзень якраз вольны быў. Але—вось бяда! Пасьнедаў я, ды думаю: дай сьпіну пагрэю трохі на печы. Узьлез на печ, лёг і ляжу ды трохі задрамаў. З хаты ўсе павышлі, ціха. Прачнуўся, паглядзеў у вакно, ужо сьвятаць стала. Пароша — лепшай і ня трэба. І захацелася на паляваньне мне, але бакі так нагрэліся на печы, што ніяк не падняцца, млявасьць нейкая агарнула мяне, расплылася па ўсяму целу, што і пальцам ня хочацца крануць.—„А чорт яго бяры з паляваньнем! Яшчэ дзень праходзіш, ногі наб'еш ды пустым у хату вернешся! Не пайду!"— І толькі гэта, я павярнуўся на другі бок, як чую нехта ў хату ўвайшоў.

— Добры дзень! Што гэта нікога няма.

— Добры дзень, Мікіта!—адказваю я.—Садзіся там на лаўку дзе-небудзь. Я от бакі трохі пагрэць узьлез.

— А чаго так?—запытаўся Мікіта.—Што хворы, ці што?!

— Ды не! Якое хворы...

— Дык чаго ляжаць у такое добрае надвор'е? На паляваньне трэба ісьці!

— Позна ўжо,—адказваю я, а сам думаю:—„Хоць бы ты хутчэй вышаў!"—такая млявасьць агарнула.

— Якое—позна. Самараз зайца ўзяць, а ліс, дык той увесь дзень бадзяецца.

— Не пайду!

— Чаму? Што ж ты будзеш рабіць, як за шкуркамі прыдуць з ячэйкі. Дагавор заключыў, тавару набраў, а цяпер ляжыш.

Мікіта сам і быў старшынёй паляўнічай ячэйкі.

— Ды я пайшоў-бы з ахвотай, але не ў чым. Тады прасіў боты па дагавору за пушніну—ня далі, а зараз і лапцей няма.

— Ты-ж і так набраў наперад рублёў мусіць на дваццаць пяць, а шкуркі яшчэ не аднэй ня маеш здаць у краму; як-жа мы табе дадзім боты?! Другія ўжо рублёў на трыццаць пaздавалі пушніны.

— Ды і я здам.

— Як-жа ты здасі, ляжаўшы на печцы. Хадзем, от!

Павярнуўся я і так ня хочацца падымацца, а Мікіта не адстае.

— Хадзем!

— Ды я-б з ахвотай, але—далі бог—няма ў чым.

— Лапці якія небудзь абуй.

— Ды і лапцей няма.

— Ай, і чалавек!—зьдзівіўся Мікіта.—Як гэта, каб у хаце і лапцей ня было?! Гэта ты ўжо маніш.

— Далі бог!—адказваю.

— А ты от падыміся ды пашукай, а то што: яны табе самі на нагу ня ўскочаць!

— Нічога ня зробіш!—сказаў я.—Мусіш зьлезьці ад такой назолы.

— Не назола, а справа...—адказаў Мікіта, набіваючы люльку і паглядаючы на мяне. Знайшоў я лапці, абуўся і пашлі. Сабак з намі было тры—два мешанцы ганчакі, а трэці чыстапародны дварняк, але да зарэзу злы да зьвера. Увайшлі мы ў лес. Ну, і пагода: сьнег мяккі, сіняваты, ліпкі, аж за ногі бярэцца. Паветра цёплае, аж дыхаць вальней стала.

— Дайка, Міхалка, возьмем напрамак супроць ветру; сабакі лягчэй зьвера пачуюць.

— Добра,—згадзіўся я.—Але ты ідзі па тэй старане хмызьняку, а я па гэтай.

— Добра,—адказаў Мікіта.—Тут лісы бываюць.

Пайшлі мы. Лясок роўненькай сіняватай сьцяной, гладкай цягнецца ўперад. Сарокі там сям сакочаць. Сабакі порацца ў хмызьняку, чыхаюць носам. Раптам — чую закаціўся гарачым яхканьнем мой „Дунай". Я выскачыў на просеку. Чую, сабакі на мяне гоняць. Потым нібы на адным месцы ўжо пачалі брахаць. Потым зноў пагналі.—„Ну, думаю, гэта ня заяц, гэта або ліс, або казёл".—Яны там бываюць.

Схаваўся я за елку, куркі ўзьвёў і чакаю і думаю: —„Хацяб асечкі ня было, ці не прамахнуцца!"— І так я задумаўся, што аж сэрца чую, як б'ецца. Вось і сабакі ўжо блізка, а зьвера ўсё няма.—„Што за ваўкі на іх! Пашалелі яны ці што?"

Толькі я так падумаў, гляджу, лісіная морда вылазіць з-пад елкі. Вылез і ўжо ўвесь бок віднеецца. Толькі што я прыклаўся стрэліць, як бачу, нешта яшчэ мількнула пад той самай елкай і сабакі тут-жа заліліся яхканьнем, яшчэ гарачэйшым. Дзяржу я гэтага ліса на мушцы і туды прыглядаюся, аж там другі ліс. Ну, тут я так расьцяраўся, што і рабіць ня ведаю што: па якому страляць. Усе гэтыя думкі пралятаюць у галаве з хуткасьцю маланкі. Рашыў не выпускаць першага.

Націснуў на сабачку, дым! нічога ня відаць. Не, бачу ляжыць ліс на месцы і нагамі толькі дрыгае. Тут я прыглядаюся да другога, дзе ён? А той, падбегшы да мяне і пачуўшы стрэл, хацеў вярнуцца назад, але там сабакі. Тады ён ірвануўся ў бок. Якраз у гэты момант на стрэл бег ад Мікіты „Лыска", гэты самы чыстакроўны дварнак. Вось ён, як убачыў уцякаючага зьвера, заскочыў яму наперад і пайшла між імі свалка. То ліс наверх, то сабака наверх, а стрэліць ніяк не ўдаецца—баюся сабаку застрэліць. Тут прыбеглі і апошнія сабакі. Пакуль я дагадаўся ўзяць палку, каб дабіць ліса ды сабак адагнаць, дык яго ўжо самі сабакі амаль задушылі.

Вось я і вярнуўся, на дзіва ўсім, з двума лісамі. Гэта адзін раз толькі і здарылася са мной!..—скончыў Міхалка.

— Пасьля таго, мусіць, наш Міхалка ўжо ня ляжаў на печцы?—запытаўся я.

— Дзе там! Як вольны дзень, дык і пайшоў, дык і пайшоў! Яно то, сказаць—і было ў чым. За гэтых двух лісаў я такія сабе боты выцяжкі ў краме паляўнічых захапіў, што ім зносу ня будзе!—О-о-о! браце, бачыш? Міхалка падняў нагу ў новым боце з халявамі вышэй кален.

— Ну, а шмат лісоў забіў за зіму пасьля гэтага.

— Ды так штукі з чатыры! Мікіта, дык той аж сам зайздросьціў мне і не хацеў, бывала, за мной заходзіць на паляваньне...

**Мік. Цэлеш.**

# ЗЬНІШЧЫМ ВАЎКОЎ*)

*(Працяг)*

У гэтым выпадку трэба імкнуцца паставіць стральцоў таксама на пярэсмыку, г. зн. на месцы праходу ваўкоў. Калі гэта ўмова пры расстаноўцы лініі стральцоў выканана, дык усё іншае ўжо залежыць ад удзельнікаў аблавы. Абсалютны супакой і парадак па лініі агню забясьпечваюць посьпех аблавы. Як мы бачылі раней, слых у ваўка вельмі разьвіты і дзеля гэтага гутаркі, пераходы і іншыя непарадкі на лініі стральцоў могуць сапсаваць добра наладжаную аблаву. Адзеньне паляўнічых ня мае такога значэньня, як супакой.

Зразумела, трэба імкнуцца, каб не надзяваць адзеньня вельмі яркіх колераў. Але ходзячага чалавека нават у белым адзеньні воўк хутчэй заўважыць, чым паляўнічага адзетага ў кажух, але які будзе супакойна і нярухома стаяць за кустом ці нават каля дрэва. На лініі стральцоў павінны быць поўны супакой і парадак і тады воўк прыйдзе на стрэл.

Пра загоншчыкаў мы ўжо досыць гаварылі. Тут мы толькі адзначым, што і ў загоне патрэбны абсалютны парадак і галоўнае добрая бесьперарыўная сувязь паміж двума суседнімі загоншчыкамі, каб кожны момант была упэўненасьць, што лінія загону не парвалася. Каб загон ня зьбіўся ў бок, яго павінен весьці сам абкадчык ці яго памоцнікі, якія добра ведаюць мясцовасьць і разьмяшчэньне ўсіх важных пунктаў аблавы. Загоншчыкі звычайна гоняць крыкам або спэцыяльнымі трашчоткамі. Спачатку гону добра даць у загоне некалькі стрэлаў, каб хутчэй падняць ваўкоў з логава і каб больш напудзіць іх. Хлапчукоў, якія прыходзяць на аблаву больш дзеля гульні і забавы, якія хутка томяцца і адстаюць ці пакідаюць загон, лепш усяго зусім ня браць або пушчаць іх разам з дарослымі.

Страляць ваўка трэба на верны стрэл, ня больш як на 40 крокаў. Воўк вельмі трывалы на стрэл і паранены далёка сходзіць. Кожным стрэлам выяўляеш перад ваўкамі небясьпеку для іх на лініі стральцоў і пудзіш тых, што ідуць ззаду. Дзеля гэтага трэба імкнуцца, каб кожны стрэл не прападаў дарма, і каб клаў ваўка на месцы. Баяцца, што воўк не падойдзе бліжэй ня трэба; калі стральцы стаяць супакойна, воўк ідучы з-па гону прыйдзе на верны стрэл—на крокаў 15—25 да паляўнічага. Зразумела, што зарады на аблаву трэба браць найлепшыя; з ненадзейнаю стрэльбаю ці патронамі, каб не сапсаваць усёй аблавы, лепш не станавіцца на нумар на лініі агню. Страляць ваўка трэба карцеччу.

Аблава канчаецца, калі загоншчыкі выйдуць на лінію стральцоў. Пры правільна арганізаванай аблаве і пры дысцыплінаванасьці яе ўдзельнікаў ніводзін з абкладзеных ваўкоў не павінен уцячы. Але нажаль, гэта амаль-што ніколі на нашых аблавах не ўдаецца, галоўным чынам дзякуючы дрэннай арганізацыі загону і недысцыплінаванасьці стральцоў. Народу на аблаве часта зьбіраецца шмат, а толку бывае мала. Памылка аднаго нішчыць вынікі ўсёй калектыўнай працы.

*) Гл. „П. Б," № 10.

## Паляваньне з Псковічамі

Аблавы робяцца, як мы бачылі па прынцыпу абкладаньня і наганяньня ваўка загонам на лінію стральцоў. На гэтай-жа аснове вытвараюцца іншыя спосабы зьнішчэньня ваўкоў нагонным спосабам: паляваньне з псковічамі і паляваньне са сьцяжкамі.

Паляваньне з псковічамі ў нас зусім не практыкуецца, дзеля гэтага на гэтым спосабе мы падрабязна спыняцца ня будзем. Адзначым толькі яго характарныя асаблівасьці. Пры гэтым спосабе, карыстаючыся тым, што ваўкі ходзяць па „лазе", на адным з іх ставяць стральцоў (трох, чатырох) а за стральцамі на той-жа лініі, каб ахапіць большую прастору, разьвешваюць матузы са старага адзеньня і інш. Воўк з-пад гону, баючыся разьвешаных матузоў выходзіць на стральцоў.

Але галоўнаю асаблівасьцю пскоўскага спосабу зьяўляюцца мастакі загоншчыкі-псковічы. Мастацтва іх у тым, што яны ўтрох робяць тую работу, якая пры аблавах выконваецца некалькімі дзесяткамі загоншчыкаў. Правільнымі сваімі рухамі па лесе ўсьлед воўку і асабліва перагукваньнем праз роўныя прамежкі часу (праз 5 сэкунд), крыкам пэўнай моцнасьці псковічы гоняць ваўка дакладна на лінію стральцоў. Гэты спосаб вымагае мастацкага выкананьня гоннага перагукваньня і іншых асаблівасьцяй паляваньня і за недахопам такіх мастакоў у нас ня ўжываецца.

Гэты спосаб з посьпехам можа практыкавацца ў мясцовасьцях з малымі кавалкамі, „вастравамі" лесу. У Беларусі пры значных суцэльных лясных масывах мы, не ганяючыся за мастацкамі-псковічамі пры нашых прыродных умовах, павінны даць перавагу выпрабаванаму спосабу—звычайнай аблаве.

## Паляваньне са сьцяжкамі

За апошнія гады паляўнічыя арганізацыі Беларусі, побач з аблавамі, зьвярнулі асаблівую ўвагу на паляваньне на ваўкоў са сьцяжкамі. Па выніках, якія дае гэты спосаб паляваньня і па беларускіх прыродных умовах, паляваньне са сьцяжкамі сапраўды зьяўляецца спосабам, якога трэба падтрымліваць і якім трэба часьцей карыстаецца для зьнішчэньня ваўкоў. Непасільнае для паасобных паляўнічых набыцьце сьцяжкоў пад сілу калектыву паляўнічым арганізацыям, і зусім правільна яны апошнія гады набываюць сьцяжкі і ўводзяць гэты вельмі добры спосаб паляваньня на ваўкоў. Гэты спосаб не аматарскі, а сапраўды карысны і можа даць вельмі добрыя вынікі.

Аснова спосабу паляваньня са сьцяжкамі ў тым што лес, дзе абкладзены зьвер (воўк, ліса) абводзіцца шнурам, да якога прышыты кавалачкі чырвонага паркалю ці іншага матар'ялу (сьцяжкі). Шнур вешаецца на галінкі дрэў на вышыні аднаго аршыну над зямлёю. Зьвер, бачачы чырвоныя сьцяжкі, якія рухаюцца ад ветру, баіцца ісьці пад іх і застаецца ў абведзеным сьцяжкамі месцы. Раней мы ўжо адзначалі, што сьцяжкамі часта карыстаюцца, каб

затрымаць ваўкоў у месцы, дзе яны асочаны і абкладзены да арганізацыі аблавы. Дзеля гэтага ўвесь „абклад“ абводзяць сьцяжкамі і ваўкі могуць заставацца ў ім да трох сутак, баючыся пралезьці пад сьцяжкі.

Паляваньне са сьцяжкамі вытвараецца такім спосабам. Мясцовасьць (вучастак лесу, амшару, кустоў), дзе абкладзены ваўкі, абводзяць зараз-жа сьцяжкамі, потым зьбіраюць стральцоў. Прышоўшы на месца паляваньня, сьцяжкі на лазе і асабліва напроці ветру ад абкладзенага месца, разьвязваюць і ва ўтвораным перарыве расстаўляюць стральцоў, якія, як і на аблаве, павінны захоўваць на лініі поўную цішыню і парадак.

Калі стральцы расстаўлены, у сярэдзіну абкладзенага месца ўваходзяць загатоўшчыкі, якія лёгкім гоманам і крыкам пачынаюць гнаць зьвера. Апошні, баючыся сьцяжкоў і шукаючы месца бяз іх, выходзіць на стральцоў. Перарыў у сьцяжкох пры паляваньні робяць мяркуючы па колькасьці стральцоў; загоншчыкаў у абкладзе можа быць ад 4 да 10 чалавек.

Зразумела, паляваньне са сьцяжкамі можа ўжывацца толькі тады, калі разьвешаныя сьцяжкі, выразна відаць абкладзенаму зьверу. Найлепшаю парою для паляваньня са сьцяжкамі зьяўляецца зіма (на белым фоне сьнегу добра відаць чырвоныя сьцяжкі), а потым позьняя восень, калі ападзе ліст і на голым гальлі пры асеньнім ветры выразна блытаюцца чырвоныя матузы сьцяжкоў.

Сьцяжкі накручваюцца на спэцыяльныя шпулі, з якіх лёгка абыходзячы абкладзенае месца разьвешваюць сьцяжкі на галінак. Сьцяжкі звычайна робяцца 5×8 вяршк. і прышываюцца да шнуру на адлегасьці ½ аршына адзін ад аднаго.

Зразумела, што галоўную ролю пры гэтым спосабе паляваньня адыгрывае абкладчык. Ад яго спрактыкаванасьці залежыць увесь посьпех, паляваньня: калі абвесьці пустое месца, дык з такога паляваньня нічога ня возьмеш; калі-ж сьцяжкамі будзе абведзены зьвер, дык пры правільнай арганізаванасьці паляваньня ён выйдзе на стральцоў і паляваньне будзе з добрымі вынікамі.

Ганяць і пудзіць зьвера пры паляваньні са сьцяжкамі трэба павольна, лёгкім крыкам, каб ён вельмі напуджаны ня кінуўся пад сьцяжкі.

Паляваньне на ваўкоў са сьцяжкамі мае перавагу нават над аблаваю. Пры гэтым спосабе паляваньня, якое можа вытварацца невялікаю групаю ў 10—15 чалавек дысцыплінавых і спрактыкаваных паляўнічых, ня можа быць тых арганізаваных непаладак і няправільных учынкаў паасобных паляўнічых і загоншчыкаў, якія заўсёды бываюць пры вялікім зборышчы людзей і якія часта зьяўляюцца прычынаю правалу аблавы.

**Тамаш.**

## Дазволен адстрэл дзікіх кабаноў

Згодна пастановы Народнага Камісарыяту Земляробства ад 29 лістапада 1931 г. за № 729 дазволен адстрэл 151 дзікаў, тэрмінам з 1-га сьнежня 1931 г.

Адстрэл вытвараць выключна арганізаваным парадкам, брыгадамі і ў кожным выпадку з ведама праўленьня т-ва і мясцовага ўчлесгасу.

Забітыя дзікі павінны рэгістравацца ў райтаварыстве і учлесгасе. За ўкрыцьцё-ж забітых дзікаў вінаватых прыцягваць да адказнасьці.

З тае прычыны, што адстрэл дзікаў вытвараецца арганізаваным парадкам, дык трэба лічыць, што забітыя дзікі будуць зьяўляцца ўласьцівасьцю ўсіх удзельнікаў брыгады, а таму разьмеркаваньне выручанай каштоўнасьці вытвараць пад кіраўніцтвам праўленьня т-ва.

Мяса і сала забітых дзікоў разьмяркоўваецца так: 75 проц. здаваць спажыўкаапэрацыі, а 25 проц. застаўляць у карысьць брыгады. Шкуры цалкам таксама здаць той-жа каапэрацыі па цане, ужо вядомай у раёне.

У лік належачых грошай за здадзенае мяса дзіка здатчыкі атрымліваюць 30 проц. прамтаварамі з фонду сьцімуліраваньня мяса-нарыхтовак.

Аб выкананьні і ходзе паляваньня пэрыядычна данасіць праўленьню Белкахотсаюза.

Райстварыствы паляўнічых, у якіх дазволен адстрэл дзікаў: Жыткавіцкі 20 дзікаў, Тураўскі — 40, Нараўлянскі — 11, Каралінскі — 20, Клімавіцкі—5, Парыцкі—15, Плешчаніцкі — 5, Бягомльскі—5, Бабруйскі—4, Чырвона-Слабодзкі — 5, Лельчыцкі—11, Пятрыкоўскі—10 дзікаў. Усяго 157 дзікаў.

**Белкахотсаюз.**

## Усім раённым т-вам паляўнічых

Згодна пастановы куставых нарад адказных працаўнікоў раённых таварыстваў паляўнічай каапэрацыі, якая адбылася 5 сьнежня 1931 г., праўленьне Белкахотсаюзу ставіць вас у вядомасьць, што ў дадатак да шкалы неабходна ўзьнімаць мэтавы фонд у разьмеры 50 проц. ад асноўнага ў сыстэме паляўнічай каапэрацыі Беларусі.

Узысканы мэтавы фонд на працягу 1930 году залічваецца ў цэнтралізаваны фонд на разьвіцьцё трусагадоўлі, а таксама даўзыскваецца розьніца ў зьвязку з павялічэньнем пая на 1932 год.

Уся ўзысканая сума цэнтралізаванага фонду на разьвіцьцё трусагадоўлі пераводзіцца ў расьпараджэньне Белкахотсаюзу.

Перарэгістрацыю закончыць да 1 студзеня 1932 г. Пасьля гэтага тэрміну, як выключэньне, дапусьціць к старым пайнікам няўзысканьне з іх уступных узносаў да 15 студзеня 1932 году.

**Старшыня праўленьня Волдынь.**

**Сакратар Стрыгуцкі.**



Рэдкалегія: Дамарацкі, Цалеш, Волдынь, Тамашэўскі, праф. Фядзюшын. Адказны рэдактар К. Дамарацкі.

# ШКАЛА

**грашовых узносаў па Беларускаму Прамысловаму Саюзу Паляўнічых і зьверагадоўчай каапэрацыі на 1932 г.**

| Катэгорыя | Група | Назва групы | Пай | | Уступныя | | Арганізацыйны | | Бланк-білет | | У касу ўзаемадапамогі: Уступн. узносы | | У касу ўзаемадапамогі: Сяброўск. узносы | | Дзярж. пошліны | | Усяго | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 | а | Чырвонаармейцы . . . | — | — | — | 50 | — | — | — | 20 | — | 25 | — | 50 | — | — | 1 | 45 |
| | б | Дэмабілізаваныя чырвонаармейцы на працягу году пасьля дэмабілізацыі . | — | 60 | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | — | 50 | — | — | 2 | 55 |
| 2 | а | Рабочыя, служачыя і саматужнікі аб'яднаных арцеляў, якія зарабляюць да 50 р. у месяц, партызаны чырвонай арміі, чырвонасьцяжэнцы . . . | 6 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 8 | 95 |
| | б | Сяляне члены калгасаў і камун, якія да ўступл. ў калгас альбо ў камуну аслабаняліся ад с-г. падатку на працягу 2-х год знаходжаньня ў калгасе. | 6 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 8 | 95 |
| | в | Студэнты і вучні, якія атрымліваюць стыпэндыю . . . . . | 6 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | — | 50 | 1 | — | 8 | 95 |
| | г | Лясн. варта, міліцыянэры і чыг. варта. | 6 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | — | 50 | — | — | 7 | 95 |
| | д | Інваліды вайны і працы, якія атрымліваюць пэнсію ад ворг. сац. забясьп. | 6 | — | — | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | — | 50 | — | — | 7 | 95 |
| 3 | а | Рабоч., служач. і саматужн. аб'яднан. арцел., якія зарабл. ад 50 да 80 р. у м-ц | 12 | — | 1 | — | — | 60 | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 15 | 95 |
| | б | Сяляне члены калгасаў і камун . . | 12 | — | 1 | — | — | 60 | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 15 | 95 |
| | в | Сяляне аднаасобн, якія аслабанены ад с-г. падатку . . . . . | 12 | — | 1 | — | — | 50 | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 15 | 95 |
| | г | Асобы кам. складу, чырв. арміі, міліцыі і ДПУ, чыгун. варта і лясн. адміністр., якія зарабляюць ад 50 р. да 80 р. у месяц . . . . | 12 | — | 1 | — | — | 50 | — | 20 | — | 25 | 1 | — | — | — | 14 | 95 |
| 4 | а | Рабоч., служач, саматужнікі аб'яднан. арцел., якія зарабл. ад 80 р. да 125 р. . | 18 | — | 1 | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 22 | 45 |
| | б | Асобы каманднага складу, чырвонай арміі, міліцыі і ДПУ, чыгуначн. варта і лясн. адміністр., якія зарабляюць ад 80 р. да 125 р. . | 18 | — | 1 | 50 | — | 50 | — | 20 | — | 25 | 1 | — | — | — | 21 | 45 |
| 5 | а | Рабоч., служач., саматужн. аб'яднан. арцеляў, якія зарабляюць ад 125 р. да 175 р. у м-ц . . . . . | 24 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 29 | 45 |
| | б | Сяляне-аднаасобн., якія плацяць с-г. падатак да 20 руб. . . . . | 24 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 29 | 45 |
| | в | Саматужнікі-адзіночкі | 24 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 29 | 45 |
| | г | Асобы камандн. складу чырвон. арміі, міліцыі, ДПУ, чыгуначн. варта і лясн. адміністр., якія зарабл., ад 125 да 175 руб. у месяц | 24 | — | 2 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | — | 1 | — | 29 | 45 |
| 6 | а | Рабочыя, служач., саматужн. аб'яднан. арцеляў, якія зарабл. ад 175р. да 225 р. | 36 | — | 3 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 42 | 95 |
| | б | Сяляне-аднаасобн., якія плацяць с-г. падатак звыш 20 р. да 60 р. . . | 36 | — | 3 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 42 | 95 |
| | в | Асобы камандн. складу, чырв. арміі, міліцыі, ДПУ, чыгун. варта, лясн. адміністр., якія зарабляюць ад 175 р. да 225 р. у месяц | 36 | — | 3 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | 50 | — | — | 41 | 95 |
| 7 | а | Рабоч., служач., саматужн. аб'яднан. арцеляў, якія зарабляюць ад 225 р. да 260 р. у месяц . . . . . | 48 | — | 4 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 55 | 95 |
| | б | Сяляне, якія плацяць с-г. падатак звыш 60 руб. . . . . . | 48 | — | 4 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | 50 | 1 | — | 55 | 95 |
| | в | Асобы камандн. складу, чырв. арміі, міліцыі, ДПУ, чыгуначн. варта, лясн. адміністр., якія зарабляюць ад 225 р. да 260 р. і звыш. | 48 | — | 4 | — | 1 | — | — | 20 | — | 25 | 1 | 50 | — | — | 54 | 95 |
| 8 | а | Рабочыя, служач., саматужн. аб'яднан. аб'яднан. арцеляў, якія зарабляюць ад 260 р. да 400 р. у мес. . . . | 60 | — | 5 | — | 2 | — | — | 20 | — | 25 | 2 | — | 1 | — | 70 | 45 |
| | б | Рабоч., служач. і саматужн. аб'яднан. арцел., якія зарабл. ад 400 р. і звыш. | 84 | — | 7 | — | 4 | — | — | 20 | — | 25 | 3 | — | 1 | — | 99 | 45 |

УВАГА 1) Растэрміноўка пая для ўноў уступаючых дазваляецца на працягу 6 мес. пры ўмовах уплаты пры ўступленьні ня менш 50 проц. паю. Старыя пайнікі павінны пай унесьці цалкам пры перарэгістрацыі, згодна гэтай шкалы.

2) Дэмабілізаваныя чырвонаармейцы праз год адносяцца да тэй ці іншай катэгорыі.

3) Вучні і студэнты, якія не атрымліваюць стыпэндыю, адносяцца да катэгорыі асоб, на ўтрыманьні якіх яны жывуць.

4) Зборы за бланк-білета, уступныя і ўступныя ў касу ўзаемадапамогі ўзымаюцца толькі ад сяброў ўноў уступаючых у саюз паляўнічых.

5) Пры падпісцы на часопіс „Паляўнічы Беларусі" на 1 год узьнімаюць 2 руб. 40 кап.

„БЕЛКАХОТСАЮЗ".

# ТАВАРЫШ, ТЫ ХОЧАШ ВЕДАЦЬ,

як трэба весьці на калектыўных пачатках паляўнічую гаспадарку? Як арганізаваць калектыўнае разьвядзеньне каштоўных пушных зьвяроў? Як арганізаваць трусятнік? Як выбраць і прыстраляць стрэльбу? Як выбраць сабаку для паляваньня? Якія спосабы паляваньня могуць даць лепшыя вынікі? Дзе жывуць розныя прамыслова-паляўнічыя зьверы і птушкі? Якія іх прывычкі? Якія неабходныя ўмовы, каб іх было больш у паляўнічых угодзьдзях? Чым вы можаце дапамагчы ў справе вывучэньня паляўнічай гаспадаркі? Чым дапамагчы сыстэме паляўнічай каапэрацыі ў хутчэйшай арганізацыі паляўнічай гаспадаркі? Як самому ўключыцца ў работу гэтай галіны?

**НА ЎСЕ ГЭТЫЯ І ДРУГІЯ, ЦІКАВЯЧЫЯ ВАС, ПЫТАНЬНІ ТЫ МОЖАШ АТРЫМАЦЬ ВЫЧАРПАЛЬНЫЯ АДКАЗЫ.**

## ВЫПІСВАЙ НА 1932 ГОД ЧАСОПІСЬ

# „ПАЛЯЎНІЧЫ БЕЛАРУСІ“

Орган прамыслова-каапэрацыйнага саюзу паляўнічых „БЕЛКАХОТСАЮЗУ“.

У часопісі шырока асьвятляюцца пытаньні паляўнічае каапэрацыі, будаўніцтва калектыўнай паляўнічай гаспадаркі, жыцьцё і норавы зьвяроў і птушак, пушная справа, паляўнічае права, спосабы паляваньня, сабакагадоўля, ружэйная тэхніка. Асобную ўвагу часопісь будзе аддаваць пытаньням будаўніцтва паляўнічай гаспадаркі, калектыўнай пушной зьверагадоўлі і трусагадоўлі, а таксама біолёгіі прамыслова-паляўнічых жывёл, бо веды яе забясьпечваюць пасьпяховасьць паляваньня і паскараюць тэмп сацыялістычнай рэканструкцыі паляўнічага промыслу ў рацыянальную паляўнічую гаспадарку.

**САЮЗЫ, ТАВАРЫСТВЫ І ПАЛЯЎНІЧЫЯ ЯЧЭЙКІ!**

**Вылучайце арганізатараў падпіскі на гэтую часопісь.**

УМОВЫ ПАДПІСКІ:

на 1 год . . 2 р. 40 к.
на паўгода . 1 „ 2[illegible]
на 3 мес. . . — [illegible]

На меншы тэрмін падпіска ня прымаецца.

**У 1932 годзе ў часопісі мяркуецца адкрыць спэцыяльны аддзел, асьвятляючы пытаньні рыбаводзтва і рыбалоўства.**

**Падпіску і грошы накіроўваць: Менск, Кіраўніцтва сувязі, або ў бліжэйшае паштовае аддзяленьне.**

**Адрас рэдакцыі: Менск, Савецкая 68, выдавецтва „Калгасьнік Беларусі“.**

Друкарня імя Сталіна. Зак. № 2459. У ліку 16 450. экз. Галоўлітбел № А—3062.